


# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

18 кастрычніка 2019 года №42 (1277) 18+



## Замест шрубавёрта махляры даслалі пластылін

старонка 4

ISSN 1991–7155





Адсканюйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/

# Маладзечанскія танцоры сталі чэмпіёнамі свету




На фота трэнер маладзечанскай танцавальнай студыі Art-House dance studio Канстанцін Бондараў. І ён сам, і трое яго выхаванцаў сталі чэмпіёнамі свету па сучасных танцах на спаборніцтвах у польскім горадзе Плоцку.

старонка 21

Фота забяспечанае Канстанцінам БОНДАРАВЫМ.

# Хто ідзе ў дэпутаты

старонка 5

## Рэйнджары з ЗША вучаць беларусаў папярэджваць лясныя пажары

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА

**Прадстаўнікі ляснoй службы ЗША дзеляцца досведам падчас шэрагу сустрэч у Беларусі. Апоўдні 18 кастрычніка такая сустрэча мае адбыцца ў маладзечанскай бібліятэцы «Верасок».**

Ад 9 да 19 кастрычніка з візітам у Беларусі знаходзяцца прадстаўнікі лясной службы ЗША **Лэслі Свада** і **Мітч Робертс**. Яны выступаюць перад прафесійнымі, студэнцкімі і вучнёўскімі аўдыторыямі, каб пазнаёміць з амерыканскім досведам абароны навакольнага асяроддзя і папярэджання лясных пажараў. У праграме візіту Мінск, Магілёў, Маладзечна, нацыянальны ландшафтны заказнік «Налібоцкі» і Беразінскі біясферны запаведнік.

Сустрэча з рэйнджарамі ўжо адбылася на Валожыншчыне. Як паведамляе downshifter.by, яны сустрэліся з уладальнікамі аграсядзібаў і прадстаўнікамі грамадскасці Валожыншчыны, а таксама наведалі навучэнцаў Валожынскай гімназіі №1.

У арганізатараў сустрэчы – грамадскага аб'яднання «Адпачынак у вёсцы» – амбітныя планы. Яны хочуць стварыць у Беларусі адукацыйную школьную праграму «Юныя рэйнджары». І нядаўняе спатканне з прадстаўнікамі лясной службы ЗША – першы крок на гэтым шляху.

На сустрэчы з уладальнікамі аграсядзібаў Лэслі Звада падрабязна расказала пра свае ноу-хау ў працы турысцкага інфармацыйнага цэнтра і правядзенні занятак з дзецьмі.

Заняткі гэтыя накіраваныя на абуджэнне зацікаўленасці дзяцей у прыродзе і беражлівым стаўленні да яе. Магчыма, штосьці з гэтых ноу-хау хутка пачнуць прымяняць і ў беларускіх аграсядзібах.

**У праграме юных рэйджараў дзеці вучацца адрозніваць усялякія віды раслін, у тым ліку атрутныя; рыхтуюцца да магчымай сустрэчы з мядзведзем грызлі.**

Лэслі Звада падкрэслівае важнасць такіх практычных заняткаў: «Калі дзеці ўжывую знаёмяцца з прыродай і пачынаюць яе ведаць, у іх натуральна ўзнікае жаданне ахоўваць наваколле».

Акрамя знаёмства з лесам і яе насельнікамі, вельмі важна, лічыць спадарыня Звада, і камунікацыя на чалавечым узроўні, а таксама азнаямленне дзяцей з традыцыйнай культурай Аляскі і яе старажытнымі насельнікамі – індзейцамі тлінкітамі.

У канцы навучальных праграм дзеці мусяць запоўніць буклеты з заданнямі і задаць пытанне рэйнджару. Пасля гэтага яны атрымліваюць адмысловую нашыўку і іх пасвячаюць у юныя рэйнджары.

**Паводле паведамлення Амбасады ЗША ў Мінску і downshifter.by.**



## Прэзідэнт Літвы: «Імпарт энергіі з БелАЭС – пагроза нашай бяспецы»

**«Імпарт электраэнергіі, што вырабляецца спосабам, небяспечным для навакольнага асяроддзя і здароўя насельніцтва Літвы, уяўляе пагрозу для нашай нацыянальнай бяспекі. Таму ўжо цяпер неабходна прыняць дадатковыя меры, якія б абмяжоўвалі пастаўкі такой электрычнасці на тэрыторыю Літвы», – сказаў Наўседа.**

АСТРАВЕЦ

У папраўках – прапанова адклікаць выдадзеныя дазволы на імпарт электраэнергіі з трэціх краін, дзе атамная станцыя прызнаная небяспечнай, і адмова ў выдачы новых. Акрамя таго, Дзяржаўная служба па рэгуляванні энергетыкі зможа звярнуцца ў Каардынацыйны камітэт па нацыянальнай бяспецы для праверкі імпарцёраў электраэнергіі. І калі заўважаць магчымыя пагрозы нацыянальнай бяспецы Літвы, то служба зможа ануляваць дзеянне дазволу.

**Раней парламент Літвы прызнаў, што атамная электрастанцыя ў Беларусі ўяўляе пагрозу для нацыянальнай бяспекі Літвы, навакольнага асяроддзя і здароўя насельніцтва.**

Мінск абвяргае прэтэнзіі Вільні аб тым, што будучая станцыя з'яўляецца небяспечнай.

Нядаўна кіраўнік МЗС Латвіі **Эдгарс Рынкевічс** заявіў, што краіна зможа набываць беларускую электраэнергію праз Расію да інтэграцыі ў еўрапейскую энергасетку, калі Літва заблакуе пастаўкі.

**– Цяпер Латвія і Эстонія могуць купляць электраэнергію толькі праз Літву. У Літвы існуюць рознагалоссі з Беларуссю з нагоды АЭС у Астраўцы.**

Парламент Літвы прыняў закон, закліканы абмяжоўваць імпарт электраэнергіі з Беларусі і Расіі.

**Калі меру ўвядуць, то Латвія атрымае дэфіцыт электраэнергіі, вырастуць цэны і тарыфы. Значыць, нам трэба шукаць альтэрнатыўных пастаўшчыкоў, пакуль мы не сінхранізавалі свае электрасеткі з Еўрасаюзам.**

А гэта, па нашых ацэнках, будзе ў 2025-2026 гадах. Таму мы ва ўрадзе разгледзелі магчымасць куплі электраэнергіі ў Расіі, што не выключае магчымасць атрымліваць яе і з Беларусі.

**Паводле сайта прэзідэнта Літвы.**

# Асаблівасці налічэння падатку пры арэндзе

Плацельшчыкі маюць права прымяніць стаўку падатку на дададзеную вартасць (ПДВ) у памеры 20% па непрызнаваных аб'ектамі падаткаабкладання абаротах па вяртанні арэндадаўцу цаны атрыманых работ або паслуг, звязаных з арэндай. Калі гэта сума не ўключаная ў суму арэнднай платы. Гэта адбываецца ў адпаведнасці з падпунктам 2.12.2 артыкула 115 Падатковага кодэкса і падпунктам 9.3 артыкула 122.

Падатковая база, якая падлягае адлюстраванню ў дэкларацыі па ПДВ, вызначаецца другім абзацам трэцяй часткі 11 пункта 120 артыкула кодэкса. Гэта кошт атрыманых работ або паслуг, не ўключаны ў суму арэнднай платы, які падлягае вяртанню.


Фота akn.by.

Пры арэндзе кватэры ўлічыце асаблівасці падаткаабкладання.

Вяртанню падлягае кошт набытых работ і паслуг, а налічэнне падатку адбываецца разліковым метадам у адпаведнасці з другой часткай другога пункта 128 артыкула. Гэта здабытак цаны набытку на стаўку ПДВ, падзелены на (100+стаўка ПДВ).

**Інспекцыя МПЗ па Маладзечанскім раёне.**

## Змяненні ў ліцэнзаванні падакцызнай групы тавараў

У ліцэнзаванне вытворчасці і звароту алкагольнай, нехарчовай спіртаўтрымальнай прадукцыі, нехарчовага этылавага спірту, табачных вырабаў і нафтапрадуктаў унеслі змяненні і дапаўненні, якія тычацца ліцэнзавання дзейнасці, звязанай з:

– вытворчасцю прадукцыі грамадскага харчавання аб'ёмнай доляй этылавага спірту больш за 7%, выраблечай праз змешванне і (або) настойванне гатовых алкагольных напояў з іншымі харчовымі прадуктамі;

– захоўваннем (як відам прадпрымальніцкай дзейнасці) алкагольнай, нехарчовай спіртаўтрымальнай прадукцыі, нехарчовага этылавага спірту, табачных вырабаў, што забралі або арыштавалі, або ўзялі ў даход дзяржавы;

– рознічным гандлем алкагольнымі напоямі і (або) табачнымі вырабамі, гаспадарамі магазінаў бязмытнага гандлю, пра разносным гандлі на бартах паветраных суднаў алкагольнымі напоямі і табачнымі вырабамі;

– аптовым гандлем мазутам і нафтабітумам.

Змены рэгулюе указ №326 ад 2 верасня «Аб удасканаленні ліцэнзавання». Больш падрабязная інфармацыя на **rh.by.**

## Калі паведаміць пра пераход на спрошчаную сістэму падаткаабкладання

Суб'екты гаспадарання маюць права падаць у падатковы орган паведамленне аб пераходзе на спрошчаную сістэму падаткаабкладання ад 1 кастрычніка да 31 снежня.

Калі вы жадаеце перайсці на спрошчаную сістэму, у вызначаны перыяд падайце ў падатковы орган паведамленне па ўсталяванай форме.

Перайсці маюць права арганізацыі, дзе колькасць работнікаў у сярэднім за першыя дзевяць месяцаў не перавышае 100 чалавек і валавая выручка нарастаючым вынікам за гэтыя дзевяць месяцаў складае не больш за 1 465 565 рублёў. А таксама індывідуальныя прадпрымальнікі, у якіх валавая выручка нарастаючым вынікам за першыя дзевяць месяцаў складае не больш за 315 000 рублёў.

**Інспекцыя МПЗ па Маладзечанскім раёне.**



| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 10.10 | 17.10 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.0708 | **2.0500** |
| Еўра | 2.2737 | **2.2619** |
| Злоты, 10 | 5.2538 | **5.2649** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.1842 | **3.1842** |
| Грыўня, 100 | 8.3886 | **8.2559** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **9.10** | **16.10** |
| Еўра | 2.2500/2.2820 | **2.2450/2.2700** |
| Долар ЗША | 2.0600/2.0800 | **2.0400/2.0580** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| **ПРАДУКТЫ** | **9.10** | **16.10** |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 18,73 | **18,73** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,95 | **3,95** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,57 | **7,57** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,95 | **4,95** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 5,80 | **5,80** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 15,60 | **15,60** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,45 | **1,45** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,85 | **1,85** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,20 | **2,20** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,40 | **1,40** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,80 | **1,80** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,60 | **1,60** |
| Агуркі, 1 кг | 1,95 | **2,20** |
| Баклажаны, 1 кг | 3,50 | **1,90** |
| Бульба, 1 кг | 0,60 | **0,60** |
| Буракі, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Кабачок, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Капуста, 1 кг | 0,70 | **0,60** |
| Морква, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Памідоры, 1 кг | 1,50 | **1,50** |
| Перац, 1 кг | 1,20 | **1,20** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,90 | **0,90** |
| Часнок, 1 кг | 5,70 | **5,50** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,50 | **5,80** |
| Апельсіны, 1 кг | 4,50 | **3,90** |
| Бананы, 1 кг | 2,50 | **2,50** |
| Вінаград, 1 кг | 2,90 | **2,90** |
| Гранат, 1 кг | 4,80 | **4,50** |
| Грушы, 1 кг | 2,80 | **2,50** |
| Дыня, 1 кг | 1,80 | **1,80** |
| Журавіны, 1 л | 4,00 | **4,00** |
| Кавун, 1 кг | 0,95 | **0,95** |
| Мандарыны, 1 кг | 4,95 | **4,90** |
| Хурма, 1 кг | 2,80 | **2,70** |
| Чарнасліў, 1 кг | 2,00 | **1,90** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,70 | **1,70** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## З-за рэўнасці 40-гадовы маладзечанец парэзаў нажом саперніка

МАЛАДЗЕЧНА

У рэанімацыю маладзечанскай бальніцы трапіў 56-гадовы гараджанін з нажавымі раненнямі.

Вечарам кампанія з чатырох чалавек распівала алкаголь. На глебе рэўнасці паўстаў канфлікт, трагічная развязка якога адбылася ў двары прыватнага дома. Каб разабрацца ў сітуацыі без прысутнасці дам, двое мужчын выйшлі на вуліцу, дзе 40-гадовы мужчына нанёс апаненту два ўдары нажом у паяснічную вобласць і жывот. Брыгаду «хуткай дапамогі» на месца інцыдэнту выклікала гаспадыня дома.

Верагодную прыладу злачынства, кухонны нож, сышчыкі знайшлі на прысядзібным участку. Падазраванага затрымалі і даставілі для разбору ў РАУС. У яго крыві было больш за тры праміле алкаголю. Раней беспрацоўны жыхар Маладзечна неаднаразова трапляў у поле зроку праваахоўных органаў за крадзяжы і ўхіленне ад адбыцця пакарання ў выглядзе абмежаванняў свабоды.

Зламыснік прызнаў віну. Паводле яго слоў, ён прыраўнаваў сужыцельніцу да пацярпелага, які стаў аказваць ёй знакі ўвагі. Калі выходзіў з дому на размову, падазраваны не выключаў таго, што сапернік можа апынуцца дужэйшым, таму ўзяў у рукі нож як аргумент на сваю карысць.

Узбуджаная крымінальная справа па артыкуле «Наўмыснае прычыненне цяжкага цялеснага пашкоджання», віноўніку пагражае да васьмі гадоў пазбаўлення волі, ён знаходзіцца пад вартай.

**БелТА.**

## На пажары на Мядзельшчыне загінуў гаспадар. Яго жонка ў бальніцы

Пра гэта карэспандэнту расказала інспектар групы прапаганды і агітацыі Мядзельскага РАНС **Ірына Карапецян**.

Пра пажар мядзельскім выратавальнікам паведамілі 10 кастрычніка ў 16:21 з аграгарадка Нарач.

Калі выратавальнікі прыехалі на месца, убачылі задымленне ў адной з кватэр аднапавярховага чатырохкватэрнага дома.

Калі зайшлі ў задымленую кватэру, на падлозе ў адным пакоі знайшлі 68-гадовага гаспадара без прыкмет жыцця. У другім пакоі знайшлі яго 71-гадовую жонку. Яе забралі ў Мядзельскую ЦРБ.

Па словах Ірыны Карапецян, стан пацярпелай жанчыны стабільны.

Прычыну пажару высвятляюць. Разглядаюць неасцярожнае абыходжанне з агнём пры курэнні гаспадара.

Ад пажару дом не вельмі пацярпеў. Згарэла невялікая частка падлогі.

– У кватэры быў пажарны апавяшчальнік. Яго пачуў сусед, які раней прыйшоў з працы. Ён і выклікаў выратавальнікаў, – расказала Ірына Карапецян.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Жыхар Вілейшчыны выпіў і ўгнаў скутар у знаёмага

ВІЛЕЙКА

Днём 8 кастрычніка міліцыянеры затрымалі 36-гадовага жыхара Вілейшчыны.

Мужчына кіраваў скутарам у стане алкагольнага ап'янення, паведамілі ва УСК Мінскай вобласці.

Міліцыянеры ўстанавілі, што фігурант раней быў неаднаразова судзімы. Скутарам ён завалодаў незаконна.

Напярэдадні ўгоншчык распіваў спіртныя напоі з уладальнікам скутара. Калі 58-гадовы гаспадар заснуў, госць паехаў катацца.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Веласіпедыст памёр, кіроўца ўцёк. ДАІ шукае відавочцаў аварыі

Меркавана аўтамабіль маркі DAF XF 95-105 белага колеру наехаў на веласіпедыста, і кіроўца ўцёк з месца здарэння.

12 кастрычніка прыблізна каля 21:00 на восьмым кіламетры аўтамабільнай дарогі Р-80 Слабада-Паперня паблізу вёскі Раўбічы (Мінскі раён) кіроўца грузавога транспартнага сродку наехаў на веласіпедыста, які рухаўся ў спадарожным кірунку на крайняй правай паласе. Ад атрыманых цялесных пашкоджанняў веласіпедыст памёр на месцы ДТЗ.

Ровар быў абсталяваны адпаведнымі ліхтарамі і святлоадбівальнікамі.

Калі вы маеце якую-небудзь інфармацыю аб ДТЗ з удзелам аўтамабіля маркі DAF XF 95-105 белага колеру або запісам гэтай аварыі з відэарэгістратара, паведаміце ў аператыўна-дзяжурную частку ДАІ Мінскай вобласці па тэл.: **(8-017) 204-42-44, (8-017) 229-04-44** або **102**.

**Паводле прэс-службы МУС Беларусі.**



Фота minobl.mvd.gov.by.

Замест шрубавёрта людзі атрымлівалі вось такую пасылку – танную электраадвёртку і антыстрэс.

# Як махляры падманвалі на электраінструменце

МАЛАДЗЕЧНА

**У інтэрнэце жыхары Маладзечанскага раёна ўбачылі аб'яву. Кампанія прапаноўвала набыць шрубавёрт Makita за 99 рублёў. Распродаж электраінструмента нібыта быў звязаны з ліквідацыяй склада.**

Для афармлення анлайн-замовы пакупнікі пераходзілі па спасылцы на сайт by.drel-top.ru. Усё, што можна было зрабіць, гэта «замовіць са зніжкай» і «замовіць цяпер», паказаўшы сваё імя і мабільны тэлефон. Астатнія ўкладкі на сайце былі не актыўныя, інфармацыя аб кантактах і водгукі пакупнікоў адсутнічалі.

Праз пэўны час для пацвярджэння анлайн-заяўкі з пакупнікамі звязваўся менеджар. Званок на тэлефон паступаў з расійскага нумара. Па словах супрацоўніка кампаніі, заказ павінны паступіць у аддзяленне пошты накладным плацяжом на працягу шасці-дзесяці дзён. У выпадку ўзнікнення праблем звяртацца да работнікаў беларускага прадстаўніцтва ў Мінску.

У названы тэрмін кліентам прыходзіла SMS-паведамленне пра тое, што замова знаходзіцца ў паштовым аддзяленні. Кошт бандэролі і дастаўкі ў адным выпадку быў 108 рублёў, у другім – 131.

Пакупнікоў збянтэжыла вага пасылкі – занадта малая для скрынкі з шрубавёртам.

Замест фірменнага электраінструмента Makita ўнутры ляжалі акумулятарная адвёртка і пластылін-антыстрэс.

Пра тое, што сталі ахвярамі падману, у Маладзечанскі РАУС паведамілі ўжо некалькі чалавек. Цяпер па ўсіх фактах праводзіцца праверка.

Купляць у інтэрнэце, сапраўды, больш выгадна і зручней, чым у звычайных крамах. Аднак перад афармленнем замовы ўважліва вывучыце сайт інтэрнэт-крамы. На старонцы ў абавязковым парадку павінна размяшчацца інфармацыя аб кампаніі, яе адрас і іншыя кантактныя дадзеныя. Будзьце пільныя, набываючы тавары па зніжцы або заніжанай цане, якую прапаноўваюць уладальнікі інтэрнэт-магазінаў у сувязі з ліквідацыяй складскіх рэштак. Падобныя хітрыкі і выкарыстоўваюць зламыснікі.

**УУС Мінаблвыканкама.**

## Замежнік ганяўся за сваёй жонкай з Маладзечна з нажом і парэзаў ёй пашпарт

МАЛАДЗЕЧНА

**Складаныя адносіны паміж турэцкім мужам і беларускай жонкай высвятлялі ў маладзечанскім судзе.**

28-гадовага грамадзяніна Турцыі арыштавалі на два месяцы. У пачатку жніўня ён прыляцеў да сваёй жонкі ў райцэнтр, высачыў жанчыну каля прыпынку. А потым яшчэ і ганяўся за маладзечанкай з нажом. Мужчыну судзілі па двух крымінальных артыкулах.

6 жніўня Д. прыбыў з Турцыі ў Мінск, а затым на аўтобусе – у Маладзечна. На дарозе да дома сваёй беларускай жонкі абвінавачаны купіў у краме кухонны нож. Убачыўшы жонку на вуліцы, ён пераклаў нож з сумкі ў кішэню і пачаў праследаваць яе. Дагнаўшы пацярпелую каля прыпынку грамадскага транспарту, збіў яе з ног, нанёс удары кулаком па твары і руках.

Калі пацярпелай удалося падняцца і адбегчы ў бок, Д. выкінуў на зямлю змесціва жаночай сумачкі. Убачыўшы там пашпарт жонкі, парваў яго рукамі і парэзаў нажом. Затым з нажом у руках пабег за жонкай, пагражаючы ёй забойствам.

Пры гэтым пацярпелая рэальна ўспрыняла пагрозу і баялася яе ажыццяўлення.

У судзе ўстанавілі, што маладыя ажаніліся два гады таму ў Анталлі, засталіся там жыць. Але потым беларуска вярнулася на радзіму. Муж і жонка мелі зносіны па WhatsApp. Мужчына некалькі разоў прылятаў да жонкі, але потым даведаўся, што яна збіраецца з'язджаць на працу за мяжу, і пачаліся пагрозы.

У судовым пасяджэнні абвінавачаны прызнаў віну ў поўным аб'ёме. З улікам доказаў суд Маладзечанскага раёна прызнаў Д. вінаватым у пагрозе забойствам і наўмысным знішчэнні чужога пашпарта. Па сукупнасці злачынства Д. прызначанае канчатковае пакаранне ў выглядзе двух месяцаў арышту.

Прысуд у законную сілу не ўступіў, можа быць абскарджаны і апратэставаны ў апеляцыйным парадку.

**Паводле Генеральнай пракуратуры.**

# Хто ідзе ў дэпутаты ў рэгіёне

**На сайце rec.gov.by з'явіліся спісы кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу сёмага склікання па рэгіёне.**

Глядзіце, хто вылучаецца.

### Маладзечна. Гарадская акруга №72

**Міхаіл Лявонцьевіч Валынец (1974)** – рамеснік. Беспартыйны. Жыве ў Мінску.

**Міхаіл Аляксеевіч Ермаковіч (1953)** – пенсіянер. Сябра Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі. Жыве ў Маладзечне.

**Людміла Мікалаеўна Кананові́ч (1966)** – дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. Беспартыйная. Жыве ў Мінску.

**Андрэй Віктаравіч Маркаў (1994)** – індывідуальны прадпрымальнік. Сябра партыі БНФ. Жыве ў Маладзечне.

**Арцём Мікалаевіч Русакевіч (1979)** – дырэктар ААТ «Завод Рамбыттэхніка». Беспартыйны. Жыве ў Маладзечне.

**Алег Ігаравіч Таранікаў (1981)** – начальнік растворабетоннага вузла ТАА «Алісан-Груп». Сябра ліберальна-дэмакратычнай партыі. Жыве ў вёсцы Цюрлі на Маладзечаншчыне.

**Валянцін Уладзіміравіч Цішко (1989)** – адміністратар гандлёвай залы фірменнага магазіна «Мінск Крышталь». Сябра Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Жыве ў Маладзечне.

### Маладзечанская сельская акруга №73

**Мікалай Іванавіч Герасіменка (1956)** – пенсіянер. Сябра партыі Беларуская партыя левых «Справядлівы свет». Жыве ў Мінску.

**Людміла Віктараўна Каханоўская (1972)** – старшыня Маладзечанскай раённай арганізацыі Беларускага прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі. Беспартыйная. Жыве ў Маладзечне.

**Алег Аляксеевіч Семянчук (1958)** – старшыня камітэта па працы, занятасці і сацабароне Мінскага аблвыканкама. Беспартыйны. Жыве ў Мінску.

**Аляксандр Уладзіміравіч Цімафееў (1978)** – дырэктар таварыстваў «Карніс Плюс» і «Тэраміт Агра» і прыватнага прадпрыемства «ВорлдАўта». Сябра Ліберальна-дэмакратычнай партыі. Жыве ў Мінску.

### Вілейская акруга №74

У спісе кандыдатаў у дэпутаты ад Вілейскай акругі №74 – пяць прозвішчаў.

**Андрэй Анатольевіч Квяткевіч (1979)** – начальнік філіяла РУП аўтадарог «Мінскаўтадор-Цэнтр» філіял «ДЭУ №63». Беспартыйны. Жыве ў Вілейцы.

**Аляксандр Стафанавіч Плавінскі (1965)** – пенсіянер. Сябра Камуністычнай партыі Беларусі. Жыве ў Мінску.

**Яраслаў Уладзіслававіч Сягень (1996)** – галоўны спецыяліст аддзела землеўпарадкавання Крупскага райвыканкама. Сябра Ліберальна-дэмакратычнай партыі. Жыве ў Крупках.

**Ірына Аляксандраўна Супрановіч (1973)** – старшыня Крывасельскага сельвыканкама. Сябра Камуністычнай партыі Беларусі. Жыве ў вёсцы Крывое Сяло на Вілейшчыне.

**Мікалай Іванавіч Юшчук (1975)** – вядучы інжынер па ахове працы ТАА «АП НДІ ПКД». Сябра Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі. Жыве ў Мінску.

### Смаргонская акруга №59

Па ёй вылучаецца пяць кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў.

**Ірына Зянонаўна Вештард (1953)** – намеснік старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі. Жыве ў Смаргоні.

**Іван Фёдаравіч Крук (1944)** – пенсіянер. Сябра Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Жыве ў Астраўцы.

**Іван Іванавіч Мушніцкі (1958)** – загадчык аддзела сацабслугоўвання «Тэрытарыяльны цэнтр сацабслугоўвання насельніцтва Астравецкага раёна». Сябра Камуністычнай партыі Беларусі. Жыве ў Гудагаі на Астравеччыне.

**Андрэй Уладзіміравіч Нікулін** – адміністратар міні-рынкаў «ГроднаГандльСэрвіс». Сябра Ліберальна-дэмакратычнай партыі. Жыве ў Гродне.

**Віктар Збігневіч Свіло** – намеснік старшыні Астравецкага райвыканкама. Беспартыйны. Жыве ў Ашмянах.

У Савет рэспублікі па Мінскай вобласці ідзе дырэктар Маладзечанскай сярэдняй школы №14 **Каліна Капуцкая**. Такая інфармацыя размешчаная на сайце Цэнтрвыбаркама.


Фота smolensk-i.ru.

Яе адзінагалосна вылучылі на сумесным пасяджэнні прэзідыума Вілейскага райсавета дэпутатаў і райвыканкама.

### Паўлюк Быкоўскі: нехта – за начальніка, нехта – за прыгожае прозвішча

Журналіст, медыяэксперт і палітычны аглядальнік **Паўлюк Быкоўскі** расказаў «Рэгіянальнай газеце», чым, згодна са статыстыкай і яго шматгадовым назіраннем, кіруюцца выбаршчыкі, абіраючы дэпутатаў.

– Часцей за ўсё, выбаршчык – гэта жанчына ва ўзросце 35+. Мужчыны ідуць на выбары менш. Бо мужчына не стане нешта рабіць, калі ў яго няма пераканання ў зменах. Сярод выбаршчыкаў шмат адміністрацыйна залежных людзей, якія галасуюць датэрмінова.

Матывы розныя. Шмат галасуюць за таго, каго ведаюць. Нехта паглядзіць на плакат. Нехта, прычым большасць, вырашыць, каго абраць, калі будзе запаўняць бюлетэнь.

А ў бюлетэні інфармацыі няшмат – імя, прозвішча, год нараджэння, партыйнасць або беспартыйнасць.

Хтосьці галасуе за начальніка, хтосьці – за прыгожае прозвішча, хтосьці – за дэпутата, які ўжо быў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

** Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце* Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

**МАЛАДЗЕЧНА** Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.**
**АСТРАВЕЦ** вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.**
**АШМЯНЫ** вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.**
**ВАЛОЖЫН** вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.**
**ВІЛЕЙКА** вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.**
**МЯДЗЕЛ** вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.**
**СМАРГОНЬ** vул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **3-30-77.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• ЗАЗ-Таўрыя, 2006 г.в., выдатны стан, 1900 рублёў. Т. (8-029) 6653394.*

• Мерсэдэс МБ 100 па запчастках. Т. (8-033) 3494378.*

• Пежо-405, 1992 г.в., бензін, мона 1,6, на хаду, 1000 рублёў, торг. Т. МТС (8-029) 7012233.*

• Фольксваген-Гольф 3, 1,4 мона, 5-дзверны, па запчастках. Т. (8-033) 3494378.*

• Форд КА, 1999 г.в., па запчастках. Т. (8-033) 3494378.*

• Шаўрале-Матыз у выдатным стане. Т. (8-029) 9139773.

• Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО:** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 1477209.***

• Аўто! Іншамарку! У любым стане. Т. (8-029) і (8-044) 7769900.*

• Аўто, можна аварыйнае. Т. (8-029) 5677052.*

• Любое аўто на ходу для сябе. Грошы адразу. Т. (8-029) 7555455, (8-029) 1563334.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• **3-ПАКАЁВАЯ КВАТЭРА Ў МЯДЗЕЛЕ, ВУЛ. ЮБІЛЕЙНАЯ, 21. Т. (8-029) 3926213.***

• 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 6405133.*

• 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне або абмяняю на кватэру ў Валожыне ці Маладзечне. Т. (8-0176) 533659, (8-025) 9115360, (8-033) 6384534.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029)9485029.

• 2-пакаёвая кватэра ў цэнтры Валожына. Агульная плошча 51 кв. м, кухня – 7,3 кв. м, с/в раздзельны. Тэрмінова. Торг на месцы. Т. (8-029) 8716493 Алена.

• Гараж у ГБК-2, Вілейка, нядорага. Т. МТС (8-033) 6611354.*

• Дом у в. Засценкі Іжанскага сельсавета Вілейскага раёна. Т. 98-033) 3513656.*

• Дом у вёсцы Самалі. Т. (8-033) 3958668.*

### ЗДАМ

• Гараж у Маладзечне па вул. Міру, 6х9. Т. (8-029) 5753932.*

• У арэнду гандлёвае памяшканне ў двух ярусах плошчамі рознай велічыні, усяго 120 кв. м, у Астраўцы. Т. (8-029) 3278422.*

## ПАСЛУГІ

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІК

• Міні-экскаватар. Міні-пагрузчык. Трамбоўка 500 кг. ІП Карповіч В.В. УНП 692013268 Т. (8-029) 9381010.*

• **МІНІ-ЭКСКАВАТАР**. Усе віды земляных работ (газ, вада, фундаменты, гідрабур пад фундамент на палях (свайные фундаменты). ІП Жак А.А. УНП 691515498. Т. (8-044)5522028.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ.** ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Бурэнне свідравін (скважын) дыяметрам 32 мм, 63 мм, 90 мм і 125 мм. Работы выконваем магутнай малагабарытнай устаноўкай. Спецыялісты атэставаныя на тэрыторыі РБ. Магчымы выезд для кансультацыі. Кошт работы ад 40 рублёў м/п. ІП Субат П.І. УНП 692010733. Т. (8-029) 8331245, (8-044) 5486213.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• **МАНТАЖ-ДЭМАНТАЖ** дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• Рамонт камп'ютараў, ноўтбукаў, маніtoraў, планшэтаў. ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года**.** ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Велком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі**.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• **СПІЛОЎВАННЕ і АБРЭЗКА** дрэў. Магчымы вываз, выкарчоўванне пнёў. Скідкі. ІП Мамай Ю.А. УНП 691895935. Т. Вэлком (8-029) 3301964, МТС (8-029) 8177983.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя. Дастаўка. Разгрузка. Можна ў растэрміноўку. Т. (8-044) 7516244.*

• Цэгла віцебская, вогнетрывалая, пячное ліццё, кладачныя сумесі. Т. (8-029) 8351640, (8-044) 7557072.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



**Музінструмент**

• Гармонікі вытворчасці Маладзечна. Адзін для дарослых і адзін для дзяцей. Т. (8-029) 6348540.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Авечкі і козлікі, Валожынскі раён. Т. (8-029) 6433476.*

• Козачкі 7 месяцаў. Нядорага. Т. (8-033)6684495.*

• Парасяты в'етнамскія. Т. (8-0176) 503195, (8-033) 6316635.

• Пеўні маладыя па 7 рублёў. Т. (8-029) 2698633.*

**Іншае**

• Балон, торфабрыкет, тачка будаўнічая, памперсы для дарослых, крэсла. Т. (8-029) 7060485.*

• Бульба буйная да 2 тон. Цана дагаворная. Т. (8-029) 9275066.

• Электраводанагравальнік. Т. (8-029) 9139773.

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабана, свінню жывой вагой.Т. (8-029) 2552321.*

**Антыкварыят**

• Манету царскую. Т. Вэлком (8-029) 6488117.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Бульбу буйную. Т. (8-029) 7082011.*

### АДДАМ

• Шчанят (помесь) у клапатлівыя рукі. Т. (8-044) 7438947.*

## ПРАЦА

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Дэмантажныя, будаўнічыя работы. Т. (8-044) 7556706.

**ПАДАЧА АБ'ЯЎ І РЭКЛАМЫ Ў БЛІЖЭЙШЫ НУМАР** «РЭГІЯНАЛЬНАЙ ГАЗЕТЫ» – **да 16:00 серады**

Аддзел рэкламы:
(8-0176) **53-78-04** (тэл./факс),
(8-029) **676-84-20, 573-28-47**
E-mail: **reklama@rh.by**

## Запрашаем паўдзельнічаць у акцыі «Не губляй ніводнага дня»

«Рэгіянальная газета» запускае акцыю «Не губляй ніводнага дня».

Дасылайце на нашу пошту **regionnews@rh.by** свае лепшыя фотаздымкі, зробленыя за 2019 год. Падзяліцеся з рэдакцыяй і чытачамі раднымі момантамі года.

Каб стаць пераможцам акцыі, неабходна даслаць адно фота ад аднаго чалавека. Мы размесцім іх для галасавання на сайце rh.by, і той, хто набірае найбольшую колькасць галасоў, атрымае падарунак.

Акрамя таго, з дасланых фотаздымкаў калектыў рэдакцыі абярэ адзін, які размесцім на фірменным календары «РГ» на 2020 год. Той, хто даслаў здымак, які выбера рэдакцыя, таксама атрымае падарунак.

**Сярод фотаздымкаў, на якіх будзе прысутнічаць тэма «Рэгіянальнай газеты», рэдакцыя абярэ лепшы на яе погляд, а аўтара ўзнагародзяць.**

У далейшым гэтыя здымкі могуць быць выкарыстаны ў нашых публікацыях.

Дасылаць здымкі могуць нашы чытачы ад сённяшняга дня да 31 кастрычніка. 1 лістапада мы размесцім на нашым сайце rh.by галасаванне. 15 лістапада абвесцім вынікі акцыі.

У лісце пазначце сваё імя, прозвішча, населены пункт, нумар тэлефона і некалькі сказаў пра фота і сябе. Фотаздымкі, дасланыя без апісання, да ўдзелу дапускацца не будуць. У тэме ліста абавязкова пазначце «Не губляй ніводнага дня».

**Большасць з дасланых фотаздымкаў мы размесцім і ў папяровай версіі газеты.**

Аддзел інфармацыі.



Фота Валянціны ТАРХАН

Удзельнікі майстар-класа па акварэлі.



Ахвотныя шылі бабулю-гаспадыню.



Выступае ансамбль «Краяны».



Удзельнікі свята.



Ірына Тархан ўсталёўвае ліхтарык у арт-аб'ект «Яблык».



На свяце было каля 20 дзяцей.

# У Маладзечне актывісты зладзілі яблычнае свята

**Свята «Яблычны пірог» адбылося 13 кастрычніка.**

Арганізатарам стала **Ірына Тархан** і іншыя жыхары двара. Арганізатары хваляваліся, калі днём пайшоў дождж, але перад пачаткам мерапрыемства неба праяснілася.

На свяце было каля 60 удзельнікаў. Падчас свята ўсталявалі арт-аб'ект у выглядзе яблыка – сімвала ўраджайнасці, кахання, дабрабыту. Яго зрабіў маладзечанец **Андрэй Зайцаў**, якому дапамагалі калегі.

Яблык павесілі і ўпрыгожылі стужачкамі. Павязваючы іх, загадвалі жаданні. А калі сцямнела, унутры запалілі ліхтарык.

Адкрылі свята навучэнцы музычнага каледжа. Гасцямі ўрачыстасці сталі ўдзельнікі ансамбля «Краяны».

Падчас свята правялі два майстар-класы. **Кацярына Камельчык** вучыла маляваць акварэллю. Да актыўнасці далучаліся і дарослыя, і дзеці. Атрыманымі карцінамі ўпрыгожылі двор.

Ахвотныя разам з **Юліяй Башынскай** шылі бабулю-гаспадыню. Атрымаўся шэраг бабуль, кожная са сваім характарам.

Асноўную праграму з гульнямі, песнямі і танцамі правялі ўдзельнікі этнаграфічнага клуба «Кола», сярод іх **Воля Трубач** і **Настасся Шпілеўская**.

Пасля ўрачыстасці зладзілі круглы стол. Прысмакі на яго прынеслі самі ўдзельнікі. Агульная даўжыня яблычных пірагоў склала 1 метр 30 сантыметраў.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**



# тэлетыдзень

**21-27 кастрычніка**

Передрук праграмы забаронены.
У праграме магчымыя змяненні.

**27 каналаў ад «Рэгіянальнай газеты»**

● ЗОРКА ТЭЛЕТЫДНЯ

# Міла Ёвавіч



Фота wallpaperplay.com.

**Амерыканская актрыса, музыкант, мадэль і мадэльер.**

### У Мілы чарнагорскія і рускія карані

Міла нарадзілася 17 снежня 1975 года ў Кіеве. Дзед і брат дзеда Мілы – Багдан і Бранка Ёвавіч удзельнічалі ў спробе звяржэння Іосіпа Броз Ціта. Браты Багдан і Бранка Ёвавіч з сябрам Міліта Перавічам прыбылі ў Кіеў у пачатку 1960-х. Яны прыплылі ў Адэсу з Албаніі на савецкім цеплаходзе пад выглядам турыстаў, калі ратаваліся ад гневу Броз Ціта.

Бацька Мілы – Богіч Ёвавіч, доктар з Чарнагорыі, а маці – Галіна Логінава, руская па нацыянальнасці, савецкая і амерыканская актрыса. У дзяцінстве Міла хадзіла ў дзіцячы сад у Днепрапятроўску. Расла пераважна ў Маскве, адкуль яе маці прыехала ў Кіеў. Па словах Мілы, ва Украіне яна нарадзілася «па большай частцы выпадкова». У 1980 годзе сям'я пераехала ў Лондан, потым у Сакрамэнта, ЗША, а праз сем месяцаў у Лос-Анджэлес.

### Першыя ролі ў кіно і мадэльны бізнес

Маці Ёвавіч «выхоўвала яе як зорку кіно». У 1985 годзе Галіна Логінава адвяла Ёвавіч у 10-гадовым узросце ў клас акцёрскага майстэрства. У 1988 годзе яна з'явілася ў першай ролі на тэлебачанні ў фільме «Начны цягнік у Катманду». У яе было некалькі роляў у тэлесерыялах, у тым ліку «Рай», «Жанаты... з дзецьмі» і «Паркер Льюіс не можа прайграць».

У мадэльным бізнесе з 9 гадоў, упершыню з'явілася на вокладцы італьянскага часопіса Lei. Пазней вядомы амерыканскі фатограф Рычард Аведон прапанаваў ёй фотасесію для часопіса Mademoiselle. Калі яна была сямікласніцай, Міла кінула школу, каб канчаткова засярodзіцца на працы мадэлі. У 1997 годзе яна вярнулася ў кіно.

### Прарыў у кар'еры

У 1997 годзе Ёвавіч атрымала галоўную ролю ў французскім навукова-фантастычным баевіку «Пяты элемент». У 2002 годзе знялася ў фільме жахаў «Прыстанак зла». У фільме былі яшчэ пяць частак, у якіх у Мілы была галоўная роля. «Пяты элемент» і «Прыстанак зла» сталі прарыўнымі стужкамі ў жыцці Мілы Ёвавіч. Выйграла тры кінематаграфічныя прызы: два з іх за фільм «Прыстанак зла», адзін за ролю Люсіты Крынсан у «Камені». У 2019 годзе знялася ў двюх стужках – «Райскія пагоркі» і «Хэлбой».

### Ёвавіч – музыкант

Ёвавіч пачала працаваць над музычным альбомам яшчэ ў 1988 годзе. У красавіку 1994 года яна выпусціла «Боскую камедыю», назва якой была спасылкай на аднайменную эпічную паэму Дантэ Аліг'еры. У маі 1999 года Ёвавіч разам з Крысам Брэнерам стварылі эксперыментальны гурт пад назвай Plastic Has Memory. Міла зрабіла саўндтрэкі для некалькіх фільмаў з яе ўдзелам.

### Асабістае жыццё і захапленні

Тройчы была замужам. Першы шлюб – з акцёрам Шонам Эндрусам, у другі раз выйшла за рэжысёра Люка Бесона. У 2009 года Міла выйшла замуж у трэці раз, за рэжысёра Пола Андэрсана. У іх ёсць дзве дачкі. У 2017 годзе ёй зрабілі экстранны аборт, калі яна была на чацвертым з паловай месяцы цяжарнасці, з-за дачасных родаў. Сёлета 7 жніўня яна паведаміла, што цяжарная трэцяй дачкой.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**







## 8 канал

ВОСЬМОЙ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 21 ОКТЯБРЯ**

**7.00, 15.55, 18.10, 21.05, 0.10** «Погода» + «Эрана».
**7.10** «Мульт-парад». «Тимон и Пумба».
**7.35, 16.00** «Юморинка».
**7.40** Х/ф **«ДЕВЯТЬ ЯРДОВ».**
**9.20, 18.15** Т/с **«ЧЕРНАЯ КОШКА».**
**11.00** Программа о моде и не только… «BELFASHION.TV».
**11.30** «Необычайные деревни».
**11.35** Х/ф **«ВЕНОМ».**
**14.00, 20.00** Т/с **«ЭЛИТА».**
**14.50** Т/с **«АЛОЕ СЕРДЦЕ».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.20** Т/с **«ЗАТЕРЯННЫЕ В КОСМОСЕ».**
**17.25, 23.25** Т/с **«ИМПЕРИЯ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«СЕРДЦЕ МИРА».**

**ВТОРНИК, 22 ОКТЯБРЯ**

**7.00, 15.55, 18.05, 21.05, 0.00** «Погода» + «Эрана».
**7.10** «Мульт-парад». «Тимон и Пумба».
**7.35, 16.00** «Юморинка».
**7.40** Х/ф **«ДЕВЯТЬ ЯРДОВ-2».**
**9.20, 18.10** Т/с **«ЧЕРНАЯ КОШКА».**
**11.00** Д/ф «ДИКАЯ ПРИРОДА РОССИИ».
**11.45** Х/ф **«СЕРДЦЕ МИРА».**
**14.00, 19.50** Т/с **«ЭЛИТА».**
**14.50** Т/с **«АЛОЕ СЕРДЦЕ».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.15** Т/с **«ЗАТЕРЯННЫЕ В КОСМОСЕ».**
**17.15, 23.00** Т/с **«ИМПЕРИЯ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ЛОФТ».**
**23.45** Мультфильмы.

**СРЕДА, 23 ОКТЯБРЯ**

**7.00, 15.55, 18.15, 21.05, 0.05** «Погода» + «Эрана».
**7.10, 16.05** «Мульт-парад». «Тимон и Пумба».
**7.35, 16.00** «Юморинка».
**7.40** Х/ф **«МЫ ВСЕГДА ГОВОРИМ «ДО СВИДАНИЯ».**
**9.20, 19.10** Т/с **«ЧЕРНАЯ КОШКА».**
**11.00** Д/ф «АЛТАЙ».
**12.00** Х/ф **«ЛОФТ».**
**13.50, 20.00** Т/с **«ЭЛИТА».**
**14.50** Т/с **«АЛОЕ СЕРДЦЕ».**
**16.30** Т/с **«ЗАТЕРЯННЫЕ В КОСМОСЕ».**
**17.25, 23.20** Т/с **«ИМПЕРИЯ».**
**18.20** «Законы привлекательности».
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ДЕВУШКА В ТУМАНЕ».**

**ЧЕТВЕРГ, 24 ОКТЯБРЯ**

**7.00, 15.55, 18.55, 21.05, 0.10** «Погода» + «Эрана».
**7.10, 16.05** «Мульт-парад». «Тимон и Пумба».
**7.35, 16.00** «Юморинка».
**7.40** Х/ф **«КАК ОТДЕЛАТЬСЯ ОТ ПАРНЯ ЗА ДЕСЯТЬ ДНЕЙ».**
**9.35, 19.00** Т/с **«ЧЕРНАЯ КОШКА».**
**10.25** «Законы привлекательности».
**11.00** Х/ф **«ДЕВУШКА В ТУМАНЕ».**
**14.00, 19.50** Т/с **«ЭЛИТА».**
**14.50** Т/с **«АЛОЕ СЕРДЦЕ».**
**16.40** Т/с **«ЗАТЕРЯННЫЕ В КОСМОСЕ».**
**17.30, 23.20** Т/с **«ИМПЕРИЯ».**
**18.15** «Готовь как шеф».
**18.45** «Фешн is my профешн».
**20.45** «Необычные деревни».
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ВО ВРЕМЯ ГРОЗЫ».**

**ПЯТНИЦА, 25 ОКТЯБРЯ**

**7.00, 15.55, 18.05, 21.05, 1.35** «Погода» + «Эрана».
**7.10** «Мульт-парад». «Тимон и Пумба».
**7.35, 16.00** «Юморинка».
**7.40** Х/ф **«МЭРИ ПОППИНС».**
**10.00, 18.10** Т/с **«ЧЕРНАЯ КОШКА».**
**11.00** «Готовь как шеф».
**11.30, 18.00** «Необычные деревни».
**11.40** Х/ф **«ВО ВРЕМЯ ГРОЗЫ».**
**13.50, 19.50** Т/с **«ЭЛИТА».**
**14.50** Т/с **«АЛОЕ СЕРДЦЕ».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.15** Т/с **«ЗАТЕРЯННЫЕ В КОСМОСЕ».**
**17.10** Т/с **«ИМПЕРИЯ».**
**20.45** «Необычайные деревни».
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** «Вечерний квартал-95».
**22.30** «Герои комиксов на экране». «Бэтмен и Супермен».

**СУББОТА, 26 ОКТЯБРЯ**

**7.00** «Погода»+ «Эрана».
**7.10** Мультфильмы «Союз зверей».
**8.40** «Утрямдия».
**8.45** Х/ф **«ХОЛОДНЫЙ РАСЧЕТ».**
**11.45** Х/ф **«РЕПЕТИТОР».**
**13.20** Х/ф **«ТЕМНЫЙ РЫЦАРЬ».**
**15.55, 18.55, 21.15, 1.00** «Погода» + «Эрана».
**16.00** «Смотрим всей семьей». Мультфильм «Том и Джерри. Шпион».
**17.15, 0.15** Т/с **«ИМПЕРИЯ».**
**18.00** «Законы привлекательности».
**19.00** Х/ф **«НЕПРОЩЕННЫЙ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** «Фешн is my профешн».
**21.20** «Жестокие мужские игры» Драма «Крестный отец».

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 27 ОКТЯБРЯ**

**7.00, 13.55, 19.00, 21.05, 1.20** «Погода» + «Эрана».
**7.10** Мультфильмы.
**8.00** Х/ф **«30 СВИДАНИЙ».**
**9.40** «Утрямдия».
**9.45** «Готовь как шеф».
**10.00** «Законы привлекательности».
**10.45** «Вечерний квартал-95».
**12.10** Х/ф **«ИЗ 13 В 30».**
**14.00** «Смотрим всей семьей». «Как прогулять школу с пользой».
**16.10, 20.45** «Необычайные деревни».
**16.15** Х/ф **«ХАНТЕР КИЛЛЕР».**
**18.15** Т/с **«КАСЛ».**
**19.05** Х/ф **«ОТПЕТЫЕ МОШЕННИКИ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«СЕМЬ СЕКРЕТОВ».**
**23.35** Х/ф **«Я СРАЖАЮСЬ С ВЕЛИКАНАМИ».**



## МКТВ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 21 ОКТЯБРЯ**

**6.30** Х/ф **«ИНСТРУКЦИЯ НЕ ПРИЛАГАЕТСЯ».**
**8.15** Х/ф **«КАК УКРАСТЬ БРИЛЛИАНТ».**
**9.50** Х/ф **«ПЯТЫЙ ЭЛЕМЕНТ».**
**11.55, 14.30, 18.00, 22.20** Мажорный лад.
**13.00** Х/ф **«ИГРУШКА».**
**15.00, 21.40** Новости БЖД.
**17.40, 19.30** Все обо всем.
**18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**19.20** Таланты края.
**20.20** Х/ф **«ОДНОКЛАССНИЦЫ».**

**ВТОРНИК, 22 ОКТЯБРЯ**

**6.30, 7.20** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 8.20, 18.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**8.25, 15.55, 22.20** Мажорный лад.
**13.00** Х/ф **«СКАНДИНАВСКИЙ ФОРСАЖ. ГОНКИ НА ЛЬДУ».**
**14.40** Х/ф **«ОДНОКЛАССНИЦЫ. НОВЫЙ ПОВОРОТ».**
**19.20** Мая Радзіма.
**20.15** Театральная гостиная: Народный театр «Метаморфозы». Королева красоты.

**СРЕДА, 23 ОКТЯБРЯ**

**5.15, 7.20** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 10.40, 18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**8.20** Х/ф **«ЗЕЛЕНАЯ КНИГА».**
**10.30, 20.20** Все обо всем.
**11.00** Х/ф **«СКАНДИНАВСКИЙ ФОРСАЖ. ГОНКИ НА ЛЬДУ».**
**12.40** Х/ф **«СОКРОВИЩА О.К».**
**14.20, 18.30, 22.20** Мажорный лад.
**15.00, 19.20** Мнения и факты.
**15.30** Х/ф **«ОДНОКЛАССНИЦЫ».**
**16.50** Х/ф **«КАК УКРАСТЬ БРИЛЛИАНТ».**
**20.30** Музыкальная открытка.

**ЧЕТВЕРГ, 24 ОКТЯБРЯ**

**6.30, 7.50, 18.50, 19.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.20** Песня на завтрак.
**8.20** Мая Радзіма.
**12.40** Х/ф **«ИГРУШКА».**
**14.15, 22.20** Мажорный лад.
**19.20** Рядом со звездой.
**20.20** Х/ф **«ИНСТРУКЦИИ НЕ ПРИЛАГАЮТСЯ».**

**ПЯТНИЦА, 25 ОКТЯБРЯ**

**6.30, 18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00** Новости: время местное.
**7.20, 8.20** Песня на завтрак.
**10.00** Х/ф **«SUPERНЯНЬ».**
**11.30, 16.15, 18.10, 22.30** Мажорный лад.
**14.00** Х/ф **«ЗЕЛЕНАЯ КНИГА».**
**16.30** Х/ф **«СОКРОВИЩА О.К».**
**17.50** Все обо всем.
**18.00** Таланты края.
**19.00, 20.00, 22.00** Время местное. Итоги.
**19.30** Мая Радзіма.
**20.30** Х/ф **«ОДНОКЛАССНИЦЫ».**

**СУББОТА, 26 ОКТЯБРЯ**

**6.30, 7.50, 8.30, 18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Время местное. Итоги.
**7.30, 8.40** Песня на завтрак.
**16.15, 21.15** Новости БЖД.
**16.25, 22.30** Мажорный лад.
**19.30** Рядом со звездой.
**20.30** Музыкальная открытка.
**21.30** Мнения и факты.

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 27 ОКТЯБРЯ**

**6.30, 22.05** Мажорный лад.
**7.00** Х/ф **«SUPERНЯНЬ».**
**8.30** Х/ф **«СОКРОВИЩА О.К».**
**9.50** Х/ф **«ЗЕЛЕНАЯ КНИГА».**
**12.05** Х/ф **«ИГРУШКА».**
**13.50** Х/ф **«СКАНДИНАВСКИЙ ФОРСАЖ. ГОНКИ НА ЛЬДУ».**
**15.30** Х/ф **«ОДНОКЛАССНИЦЫ».**
**16.50** Х/ф **«ОДНОКЛАССНИЦЫ: НОВЫЙ ПОВОРОТ».**
**18.10** Х/ф **«КАК УКРАСТЬ БРИЛЛИАНТ».**
**19.45** Мая Радзіма.
**20.00** Х/ф **«ПЯТЫЙ ЭЛЕМЕНТ».**

# нядзеля, 27 кастрычніка

## Беларусь 1

6.45 Х/ф «НИ ЗА ЧТО НЕ СДАМСЯ».
8.15 Клуб редакторов.
9.00, 12.00, 15.00 Новости.
9.10 «Арсенал». Программа об армии.
9.45 Истории спасения.
10.25 «Все за стол! «.
11.15 Вокруг планеты.
12.10 Новости. Центральный регион.
12.35 Кулинарная дипломатия.
13.15 Х/ф «ПОД ДОЖДЕМ НЕ ВИДНО СЛЕЗ».
15.15 Твой город.
15.30 Маршрут построен.
16.10 Х/ф «ИЗ СИБИРИ С ЛЮБОВЬЮ».
19.45 «На вылет!» Развлекательно-интеллектуальное шоу.
20.35 Навіны надвор'я.
21.00 Главный эфир.
22.10 Х/ф «ДВОЙНАЯ ЛОЖЬ».

## Беларусь 2

7.00 Х/ф «Я НЕ РОБОТ».
9.05, 21.15 Телебарометр.
9.10 «Зов крови». Социальное реалити-шоу.
10.20 «Селапелетела». Трэвел-шоу.
11.00 «До свидания». Реалити-шоу.
11.50 «Богиня шопинга. Блестящее возвращение». Фэшн-шоу.
12.45 Х/ф «ОСОБОЕ МНЕНИЕ».
15.10 «Орел и Решка. Перезагрузка». Трэвел-шоу.
16.05 «Папа попал». Реалити-шоу.
17.00 «Битва экстрасенсов». Реалити-шоу.
18.50 Футбол. Беларусбанк — Чемпионат Беларуси. Шахтер (Солигорск) — БАТЭ (Борисов).
21.10 Спортлото 5 из 36, КЕНО.
21.50 «Третий лишний». Реалити-шоу.
22.55 Х/ф «СЛИШКОМ КРУТА ДЛЯ ТЕБЯ».

## Беларусь 3

7.35 «Святыні Беларусі».
8.00, 14.55, 20.15 Навіны культуры.
8.20, 20.35 «Гэты дзень».
8.25 «Две сказки». Мультфільм.
8.40 «Каштоўны падарунак». Мастацкі фільм.
9.55 «Наперад у мінулае».
10.25 «Беларуская кухня». Катлеты са шчупака.
10.50 «Сваімі словамі». Тэлевіктарына.
11.30 «Нацыянальны хіт-парад».
12.20 «Пяць дзён, пяць начэй». Мастацкі фільм [СТ].
14.05 «Майстры і куміры». Народная артыстка Беларусі Зоя Белахвосцік.
15.15 Канцэрт, прысвечаны памяці Якава Навуменкі.
16.45 «Вяселле ў Малінаўцы». Мастацкі фільм [СТ].
18.20 «Развітальная гастроль «Артыста». Мастацкі фільм.
19.35 «Фарбы памяці. Эдуард Куфко».
20.00 «На вышыні». Балерына Аляксандра Чыжык.
20.40 «Калыханка».
21.05 «Доўгая дарога да сябе». Мастацкі фільм [СТ].
22.30 «Сто дзён з Купалаўскім».
22.55 «Адам. Жыццё чалавека». Дакументальны фільм да 220-годдзя з дня нараджэння Адама Міцкевіча.Фільм чацвёрты «Дзяды», заключны [СТ].

## ОНТ

7.00, 9.00, 16.00 Наши новости.
7.10 «Здоровье».
8.05 Премьера. Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».
9.10 «Воскресная проповедь».
9.25 ОНТ представляет: «Метеогид».
9.45 Х/ф «ВЕЧНАЯ СКАЗКА».
11.40 «Видели видео?».
14.35 Премьера. «Звезды «Русского радио».
16.20 Премьера. «Звезды «Русского радио» Продолжение.
17.10 Премьера. Гарик Мартиросян в новом музыкальном проекте «Щас спою!».
18.25 Шоу Максима Галкина «Лучше всех!» Новый сезон.
20.00 «Контуры».
21.20 ОНТ представляет: «Радиус безопасности».
21.55 Премьера. Вячеслав Никонов и Дмитрий Саймс в программе «Большая игра».
23.40 ОНТ представляет: «Спортклуб».
0.00 К 90-летию Л. Яшина. «Прыжок Льва».

## СТВ

6.00 «Пища богов».
7.35, 20.35 Документальный спецпроект.
9.15 «Минтранс».
10.00 «Добро пожаловаться».
10.30 «Большой город».
11.05 «День секретных проектов».
11.35, 13.40, 16.40 Т/с «СНАЙПЕРЫ. ЛЮБОВЬ ПОД ПРИЦЕЛОМ».
13.30, 16.30 Новости «24 часа».
19.30 «Неделя».
22.30 «Неделя спорта».
23.00 Спортивные бальные танцы. Capital Cup Minsk. Финалы. 2-й день.
23.45 Т/с «КРЕСТНЫЙ».

## Мир

6.00 «Миллион вопросов о природе».
6.10 «Беларусь сегодня».
6.40 Мультфильмы.
6.55 «Знаем русский».
7.50 «Культ/туризм».
8.20 «Еще дешевле».
8.55 «Всемирные игры разума».
9.25 «ФазендаЛайф».
10.00, 16.00 Новости.
10.15 «С миру по нитке».
10.45, 16.15, 19.30, 1.00 Т/с «ВОЛЧЬЕ СОЛНЦЕ».
18.30, 0.00 Итоговая программа «Вместе».
2.30 Т/с «ОФИЦЕРСКИЕ ЖЕНЫ».

## НТВ-Беларусь

5.55 «Астропрогноз».
6.00 Terra incognita. Беларусь неизвестная.
6.30 «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Дамиевой.
7.05 Х/ф «СМОТРИТЕЛЬ МАЯКА».
8.00, 10.00, 16.00 «Сегодня».
8.20 Большой репортаж.
8.50 Родные люди.
9.15 «Кто в доме хозяин?».
10.25 «Первая передача».
11.00 «Чудо техники».
12.00 «Дачный ответ».
13.05 «НашПотребНадзор».
14.05 «Секрет на миллион». Валерий Комиссаров.
16.20 «Следствие вели…».
18.00 «Новые русские сенсации».
19.00 «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.
20.05 «Звезды сошлись».
21.30 Ты не поверишь!
22.35 Премьера. «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Дамиевой.
23.10 Премьера. «Россия рулит!».

## Беларусь РТР

7.00 Т/с «АВТОШКОЛА».
10.10 «Сам себе режиссер».
11.00 ВЕСТИ.
11.20 «Сто к одному».
12.15 «Утренняя почта».
13.00 «Когда все дома с Тимуром Кизяковым».
14.00 «Смехопанорама».
14.30 ПРЕМЬЕРА. «Смеяться разрешается».
16.10 Х/ф «ПРАВО ПОСЛЕДНЕЙ НОЧИ».
18.00, 21.45 Х/ф «УЧИЛКА».
20.00 ВЕСТИ НЕДЕЛИ.
21.15 «В людях».
23.00 МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.
23.40 «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

## кіно і спорт

### TV1000

**6.10, 14.30** 13-й район. **7.55** Невидимка. **9.50** Без изъяна. **12.00** Анна Каренина. **16.05** Чужой билет. **18.05** Назад в будущее II. **20.10** Назад в будущее III. **22.20** 12 лет рабства. **0.55** Двойник. **2.40** Семейка Крудс. **4.20** Параллельные миры.

### TV1000 ACTION

**7.35** Клиент. **10.05** Телохранитель киллера. **12.15** Человек-паук. **14.25** Человек-паук 2. **16.50, 2.35** Человек-Паук 3. **19.20** Солт. **21.15** Экспат. **23.10** Синистер 2. **0.55** Защитник. **5.10** Боксёр.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**6.00** Без границ. **8.00** На Дерибасовской хорошая погода, или на Брайтон-Бич опять идут дожди. **10.00** Ярослав. Тысячу лет назад. **12.00** Ёлки последние. **13.55** Неуловимые: Джекпот. **15.35** Снежный ангел. **17.35** Контрибуция. **20.45** Статус: свободен. **22.40** Невеста любой ценой. **0.35** Обитаемый остров. **2.45** Временные трудности. **4.15** День дурака.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **8.30** «Новый день». **9.00** Х/ф **«ТРУДНЫЙ РЕБЕНОК». 10.45** Х/ф **«ТРУДНЫЙ РЕБЕНОК 2». 12.30, 22.45** «Охлобыстины». **13.30** Х/ф **«ОДНОКЛАССНИКИ 2». 15.30** Х/ф **«ПУЛЕНЕПРОБИВАЕМЫЙ». 17.15** Х/ф **«ПРИЗРАЧНЫЙ ПАТРУЛЬ». 19.00** Х/ф **«ЖИВОТНОЕ». 20.45** Х/ф **«ОСЛЕПЛЕННЫЙ ЖЕЛАНИЯМИ». 23.45** «Мама Russia». **0.45** Х/ф **«ЧЕЛЮСТИ 3». 2.45, 3.15, 3.45, 4.15, 4.45, 5.15, 5.45** «Охотники за привидениями».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ЛЮБОВЬ КАК ЛЮБОВЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ВСЕГДА ГОВОРИ ВСЕГДА». 12.00, 13.00** Т/с **«ДВОЙНАЯ ЖИЗНЬ». 14.00, 15.00** Т/с **«ЖИЗНЬ, КОТОРОЙ НЕ БЫЛО». 20.00, 21.00** Т/с **«АДМИРАЛ». 22.00, 23.00** Т/с **«АГЕНТСТВО НЛС». 4.00, 5.00** Т/с **«ЛЮБОВЬ ПО ПРИКАЗУ». 6.00, 7.00** Т/с **«ФАЛЬШИВОМОНЕТЧИКИ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.05** Х/ф **«СЛУЧАЙНЫЙ МУЖ». 1.45** Х/ф **«ЗАКОНУ ТУТ НЕ МЕСТО». 3.20** Х/ф **«НЕ УСТУПИТЬ ШТЕЙНАМ». 4.45, 22.55** Х/ф **«100 МИЛЛИОНОВ ЕВРО». 6.35** Х/ф **«ДЕНЬ ВЫБОРОВ ПО-ФРАНЦУЗСКИ». 8.20** Х/ф **«ДОБРО ПОЖАЛОВАТЬ В ДЖУНГЛИ». 10.05** Х/ф **«ХОЧЕШЬ ИЛИ НЕТ?». 11.50** Х/ф **«ВУЛКАН СТРАСТЕЙ». 13.35** Х/ф **«ТОЛСТЯК НА РИНГЕ». 15.35** Х/ф **«РЭД 2». 17.50** Х/ф **«ВИРУС ЛЮБВИ». 19.30** Х/ф **«БАРМЕН». 21.15** Х/ф **«НА КРЮЧКЕ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.45** Балабол 2. **1.45, 2.45, 4.00, 4.55, 5.55, 6.55, 7.55, 8.55** Гетеры майора Соколова. **10.00, 11.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 20.00, 20.55** Разведчицы. **21.55, 23.00** Временно недоступен.

### ВТВ

**6.00, 7.15, 8.15, 9.20, 12.15, 14.40, 15.45, 17.35, 19.35, 21.05, 23.05** Прогноз погоды на неделю. **6.05** «ЛОВИ МОМЕНТ». **7.20** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **8.20** Скетч-шоу «ОДНА ЗА ВСЕХ». **9.25** Мультфильмы «ДЖИНГЛИКИ». **9.55** Мультфильмы «ТРИ КОТА». **10.15** Мультфильмы «УТИНЫЕ ИСТОРИИ». **10.45, 19.40** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **11.45** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **12.20** Т/с **«СЧАСТЛИВЫ ВМЕСТЕ». 14.45** Юмористическое шоу «ШОУ ВЫХОДНОГО ДНЯ». **15.50** Х/ф **«ОБИТЕЛЬ ЗЛА 5: ВОЗМЕЗДИЕ». 17.40** Приключения «СМУРФИКИ». **21.10** Х/ф **«ПОСЛЕ НАШЕЙ ЭРЫ». 23.10** «КВН. ПА-НАШАМУ». **0.10** Т/с **«ЛОНДОНГРАД». 2.00** Кулинарное-шоу «ПРОСТО КУХНЯ». **2.30** Make-over шоу «РОГОВ. СТУДИЯ 24». **3.20** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.35** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**6.10** Футбол. Чемпионат Англии. Манчестер Сити — Астон Вилла. **8.00** Теннис. WTA. Элит трофи. Жухай. Финал. **10.00** Футбол. Чемпионат мира U-17. Нигерия — Венгрия. **11.50** Теннис. Итоговый турнир WTA. Шэньчжэнь. **15.30** Тренировочный день. **16.00** Игры «на вырост». **16.30, 19.20** Овертайм. КХЛ. **17.00** Хоккей. КХЛ. Динамо-Минск — Салават Юлаев (Уфа). В перерывах Овертайм. КХЛ. **19.25** Футбол. Чемпионат Англии. Ливерпуль — Тоттенхэм. В перерыве Спорт-центр. **21.30** Пит-стоп. **22.00** Футбол. Беларусбанк — Чемпионат Беларуси. Обзор тура. **22.45** Футбол. Чемпионат мира U-17. Спортинг — Гимараеш. В перерыве Спорт-центр. **0.40** Итоги недели.

### EUROSPORT

**0.05, 3.15** Супербайк. Этап чемпионата мира. Катар. Вторая гонка. **0.50, 10.30, 16.00, 20.30** Горные лыжи. Кубок мира. Зёльден. Женщины. Слалом-гигант. 1-я попытка. **1.35, 11.00, 16.45, 21.15** Горные лыжи. Кубок мира. Зёльден. Женщины. Слалом-гигант. 2-я попытка. **2.30** Супербайк. Этап чемпионата мира. Катар. Первая гонка. **4.00** WATTS. Топ-10. **5.00, 17.30, 23.35** Автогонки. WTCR. Сузука. Вторая гонка. **6.15, 9.45, 18.15** Автогонки. WTCR. Сузука. Третья гонка. **7.30** Велоспорт. «Тур Парижа». **8.45, 13.00** Велоспорт. «Тур Ломбардии». **11.50, 14.00, 22.00** Горные лыжи. Кубок мира. Зёльден. Мужчины. Слалом-гигант. 1-я попытка. **14.50, 22.45** Горные лыжи. Кубок мира. Зёльден. Мужчины. Слалом-гигант. 2-я попытка. **19.00** Автогонки. Суперкубок Porsche. Мексика. Вторая гонка. **20.05** WATTS.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00** От Кавказа до Аравии. **6.30** Сити-тестер. Эксклюзив. **6.55** Автолайф. **7.10** Сравнительный тест. **7.40, 10.20, 13.40, 16.45, 19.20, 0.05, 1.45, 4.20** Итоговые новости. **7.55** Вечер с Пикуленко. **8.35** Испытание на прочность. **9.05** Автовинтаж. **9.35** Автодело. **10.05** Дома на колесах. **10.35, 22.45, 3.10** Гаражная команда. **11.25, 20.35, 23.35, 3.55** Сделано в России. **11.50, 21.05, 0.20, 4.35** Школа внедорожного вождения. **12.05, 13.50** Покорители Азии 2. **14.55, 17.00** Норильск Диксон. Есть рекорд! **17.55** Авто Европа. **19.35, 23.10** Кастомайзинг по-русски. **21.20** Своими руками. **21.50, 5.20** Поездка выходного дня. **22.15** Авто: вторые руки. **22.30, 5.45** Хорошо забытое. **0.35** Тест на «Драйве». **1.00** Комплектация. **1.30** Легенды автопрома. **1.55** Байки про байки. **4.50** Резьба по стали.

### EXPLORE

**6.15, 6.45, 7.10, 7.35, 8.05** Битва за карпов. **8.30, 8.55, 9.25, 9.50** Рыбалка со звездами. **10.15, 11.00** Крупная и злая рыба. **11.45, 12.35** Большое рыболовное состязание. **13.20, 14.10, 14.55, 15.40, 16.25** Австралийские золотоискатели. **17.15, 17.40, 18.05, 18.30** Нефритовая лихорадка. **18.55, 19.40** Надсмотрщик. **20.30, 21.15, 22.00, 22.45, 23.30** Поисковая команда в Австралии. **0.15** Выжить на Аляске. **1.00, 1.45, 2.30, 3.15, 3.55, 4.40** Лесные люди. **5.25** Как работают лайфхаки.

### HISTORY

**6.15, 7.15, 8.45, 9.40, 10.30, 11.30** Запретная история. **8.15** Невероятные изобретения. **12.25, 13.25, 14.20** Американские принцессы на миллион долларов. **15.20, 16.10, 17.05, 18.00** Загадочные убийства: царственные особы. **18.50** Взгляд изнутри: убийство Джона Кеннеди. **19.55** Высадка на Луне: величайшая фальшивка в истории. **21.00** 5000 лет истории Нила. **22.00** Разгадка тайны пирамид. **23.00** Титаник: истории из глубины. **0.10** Последнее путешествие Романовых. **1.15** Салемская охота на ведьм. **2.20, 2.50** Тайны Парижа. **3.20, 4.25** Вторая мировая в цвете.

### NATURE

**6.00, 6.20, 6.40, 7.00** Лучшие друзья собаки. **7.30, 8.20** Щенячьи секреты. **9.20, 10.10, 11.05** Экватор: линия жизни. **12.00, 12.30, 13.00, 13.30** Уличный ветеринар. **14.00** Ветеринар из глубинки. **14.50** Дикая Центральная Америка с Найджелом Марвеном. **15.40, 16.25, 17.10** Дикие Филиппины с Найджелом Марвеном. **18.00, 18.55, 19.50** Волшебная страна Оз. **20.50, 21.45** Экспедиция в Европу. **22.40** Загадки исчезнувших великанов. **23.35** Эволюция в действии. **0.30** Вскрытие мамонта. **1.20** Эхо динозавров. **2.15, 3.00, 3.50** Суперветеринар. **4.40, 5.10, 5.30** Новорожденные в зоопарке.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Самые удивительные фотографии National Geographic. **6.25, 5.15** Панорама 360. **7.15, 8.00** Короли шахт. **8.50, 9.35** Национальные парки Америки. **10.25** Враждебная планета. **11.10, 12.00** Начало. **12.50** Дикий тунец. **13.35** В поисках гигантского осьминога. **14.25, 15.10, 15.55** Сила племени. **16.40, 17.30, 18.15** Служба безопасности аэропорта: Перу. **19.00, 22.50** «Фри-соло». **20.40, 21.25, 22.05** Откуда берутся диктаторы. **0.30** «Без цензуры» с Майклом Вэйром. **1.20** Великий канал Китая: путешествие фотографа. **2.05, 2.50** Авто — SOS. **3.35, 4.25** Исследователь 2.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 23.10** Рыбалка 360. **6.25, 23.40** Охота и рыбалка в. **6.55, 0.10** Охоты и охотники. **7.10, 18.05** Рыболовные путешествия. **8.05, 19.45, 2.20** На рыбалку вместе с папой. **8.35, 20.15** Научи меня рыбачить. **9.05, 15.55, 20.45, 3.15** Нахлыст. **9.35, 16.25, 21.15, 3.45** Кулинарное путешествие с Глебом Астафьевым. **10.00, 21.40** Загадки толстолобика. **10.35** Поехали на рыбалку! **11.05, 17.35, 1.15, 5.05** Оружейный клуб. **11.30, 19.15, 1.40, 5.35** Планета рыбака. **12.00, 0.30** Дикая кухня. **12.50, 19.00** Дело вкуса. **13.05** Рецепты Древней Колхиды. **13.20** Горная охота в Испании. **13.50** Андрей Старков и его команда. **14.20** На зарубежных водоемах. **14.50** На рыбалку с охотой. **15.20, 2.45** Энциклопедия рыбалки. **16.50, 4.10** Нож-помощник. **17.05, 4.25** Охотничьи собаки. **22.15** В Индийском океане. **22.45** Охота в Удмуртии. **2.05** Охотничье оружие. Вопросы эксперту. **4.50** Особенности охоты на Руси.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.05, 14.10, 18.15, 22.20, 2.20** Большие идеи для маленького сада. **7.00, 11.10, 23.25** Мультиварка. **7.15** Огород круглый год. **7.45, 11.55, 16.00, 20.05, 0.10, 4.05** Урожай на столе. **8.15, 12.25, 16.30, 20.30, 0.40, 4.35** Лучки-пучки. **8.30, 12.35, 16.45, 20.50, 0.55** Цветик-семицветик. **8.50, 12.50, 17.00, 21.05, 1.05** Высший сорт. **9.05, 13.10, 17.15, 21.20, 1.20, 5.05** Альтернативный сад. **9.35, 13.40, 17.45, 21.50, 1.50, 5.35** Секреты стиля. **11.25, 23.40** Гвоздь в стену. **15.15, 19.15, 3.25** Да здравствует мыло душистое! **15.30** Огород круглый год. **19.35, 3.35** Цветы зимой. **4.45** Соленья-варенья-маринады.

# Як Радашкавічы страцілі цікавы будынак, але займелі шанец вярнуць з небыцця замак

*Заканчэнне.*
*Пачатак у №41.*

**Яшчэ адно дакументальнае сведчанне дайшло да нас праз «Памятную книжку Виленской губернии».**

Са спасылкай на Летапіс Радашкавіцкай царквы даецца наступная інфармацыя:

**«Говорят, что на том месте, где теперь стоят здания волостного правления и народного училища, т.е. на месте сравнительно возвышенном близ церкви, стоял замок королевы Боны. Точных указаний нет, но говорят, будто бы раньше здесь находили кое-что из домашней рухляди, кирпичи и остатки человеческих скелетов».**



Фота рэканструкцыі Тамары Габрусь.



Схема Веры Сніткі, пад №7 пазначаная яўрэйская школа (колішняя Беларуская гімназія).




Меркаваныя замчышчы на сучаснай карце.

### Схемы і карты

Будынак народнага вучылішча або былой Беларускай гімназіі, згодна са схемай, намаляванай па памяці радашкавіцкім краязнаўцам і жонкай Браніслава Тарашкевіча **Верай Сніткай**, знаходзіўся насупраць царквы Пакрова Прасвятой Багародзіцы – акурат на ўчастку, дзе знеслі драўляную школу.

На польскай ваеннай карце «250-цы» 1938 года (тут размешчаны яе фрагмент з нашымі пазнакамі – аўт.) таксама можна ўбачыць царкву і былую гімназію насупраць яе. Гэтыя і некаторыя іншыя будынкі пазней былі знішчаныя пажарам, што ўзнік у выніку бамбёжкі мястэчка франтавой авіяцыяй Чырвонай Арміі ў ноч з 25 на 26 чэрвеня 1941 года.

На карце 1938 года апрача царквы добра бачны «стаў на рацэ Вязынь», які знік падчас будаўніцтва канала Вілейска-Мінскай воднай сістэмы. Гэта будаўніцтва ў значнай ступені змяніла рэльеф мясцовасці, аднак ранейшыя карты, планы і фотаздымкі дазваляюць нам меркаваць аб тым, як выглядала тэрыторыя ўздоўж ракі Вязынкі да з'яўлення канала. Другі стаў на рацэ Гуйцы мог размяшчацца на тым месцы, дзе цяпер знаходзіцца прамысловы корпус ААТ «Белмастацкераміка». Параўноўваючы аэрафотаздымак часоў вайны з сучаснымі касмічнымі здымкамі, можна ўбачыць, што рэчышча Гуйкі пры пабудове прадпрыемства было перанесенае на захад, а стаў, магчымыя сляды якога яшчэ можна бачыць на нямецкім аэрафота 1944 года, быў засыпаны.

Датычна пошукаў старога замчышча існуе яшчэ адна пляцоўка, на якой мог размяшчацца драўляны замак 16 стагоддзя. На аэрафотаздымку 1944 года можна разгледзець круглае ўзвышша на ўзбярэжжы ракі Вязынкі недалёка ад става. Яно мела памеры прыкладна 90 на 60 метраў і перыметр у 240 метраў, што ў прынцыпе адпавядае перыметру замкавых сцен, пададзеных у інвентары. Пры будаўніцтве канала ўзвышша было часткова разбуранае, а на ацалелай частцы цяпер знаходзіцца прыватны дом.

### Магчыма, вызначаць месца замка

Гэта ж узвышша можна бачыць на плане Радашкавічаў 1838 года, пададзеным гісторыкам **Андрэем Дараховічам**. Яно вельмі нагадвае сваім знешнім выглядам замчышча. Тым не менш, калі будавалі Вілейска-Мінскую водную сістэму (1968-1976 гг.) і часткова раскапалі гэты пагорак, аб знаходжанні звязаных з замкам артэфактаў аб'яўлена не было.

**Аднак гэта не азначае, што такія артэфакты адсутнічалі – будаўнікі маглі іх проста не заўважыць або не палічыць вартымі ўвагі.**

Такім чынам, сёння можна весці гаворку аб дзвюх пляцоўках, на якіх мог размяшчацца Радашкавіцкі замак. Аднак у бліжэйшы час месцазнаходжанне замка можа быць вызначана дакладна, бо на ўчастку былой драўлянай школы цягам лета 2019 года спецыялістамі Інстытута гісторыі НАН былі праведзеныя археалагічныя даследаванні. Па выніках дзвюх шурфовак быў выяўлены культурны слой глыбінёй да 16 стагоддзя, а таксама некаторыя артэфакты, якія ў бліжэйшы час будуць вывучацца. Таму неўзабаве гісторыя мястэчка можа ўзбагаціцца новымі фактамі.

**Зміцер БРЫШТЭН,**
**Наталля ВОЛКАВА,**
**Уладзімір САДОЎСКІ.**
**Фота забяспечанае аўтарамі.**

● КАЛЯНДАР

18 КАСТРЫЧНІКА
**1920.** Спыніліся ваенныя дзеянні ў ходзе савецка-польскай вайны 1919–1921 гадоў.

19 КАСТРЫЧНІКА
**1812.** Напалеон Банапарт пакідае Маскву.

20 КАСТРЫЧНІКА
**1920.** На беларускай нацыянальна-патрыятычнай нарадзе ў Рызе пад кіраўніцтвам Вацлава Ластоўскага створаны блок беларускіх партый для барацьбы супраць Савецкай улады і польскай акупацыі за незалежную і непадзельную Беларусь.

21 КАСТРЫЧНІКА
**1833.** Нарадзіўся **Альфрэд Нобель**, шведскі хімік, інжынер, заснавальнік Нобелеўскай прэміі.



**1878.** Нарадзіўся **Уладзімір Пічэта**, беларускі гісторык, першы рэктар БДУ.
**1933.** Украінскі нацыяналіст **Мыкола Лэмык** у знак пратэсту супраць стварэння галадамору ва Украіне забіў начальніка канцылярыі савецкага консульства ў Львове **Аляксея Майлава.**

22 КАСТРЫЧНІКА
**1988.** У Вільні пачаўся ўстаноўчы з'езд Літоўскага руху за перабудову Саюдзіс.

23 КАСТРЫЧНІКА
**1887.** Нарадзіўся **Цішка Гартны (Зміцер Жылуновіч)**, беларускі пісьменнік, грамадскі і



дзяржаўны дзеяч.
**1968.** Нарадзілася **Іна Афанасьева**, беларуская эстрадная спявачка.

24 КАСТРЫЧНІКА
**1795.** Трэці падзел Рэчы Паспалітай. Расіі адышлі ўсе землі на ўсход ад Нёмана і Буга.
**1889.** Скончылася будаўніцтва Эйфелевай вежы ў Парыжы.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

## Што хвалюе вяскоўцаў з Вілейшчыны

ВІЛЕЙКА

9 кастрычніка кіраўніцтва Вілейскага райвыканкама сустрэлася з жыхарамі Рабуні, Ерхаў і Крывога Сяла.

### У Крывым Сяле немагчыма піць ваду

Жыхароў Крывога Сяла хвалявала пытанне якасці вады, якую немагчыма піць. Па словах начальніка Вілейскага водаканала **Аляксандра Міны**, пакуль воданапорная вежа, каналізацыйная помпавая станцыя і палі фільтрацыі не перададуць на баланс арганізацыі, яны нічога зрабіць не змогуць. Сёння водаправод знаходзіцца на балансе мясцовай гаспадаркі, якая рыхтуе дакументы для перадачы яго водаканалу.

Таксама вяскоўцы пыталіся, калі правядуць оптавалакно, абновяць кніжны фонд у мясцовай бібліятэцы. Дзякавалі за пашырэнне асартыменту ў краме райспажыўтаварыства.

### Рабунцаў хвалююць дарогі і талоны да доктара

Найбольш балючае пытанне для рабунцаў – рамонт дарожнага пакрыцця.

Асаблівая бяда – пры ўездзе ў вёску. Тут ямы нават немагчыма аб'ехаць.

Супрацоўнікі дарожнай службы ў бліжэйшы час паабяцалі правесці ямачны рамонт. Пытанне аднаўлення адводнай канавы будуць вырашаць з выездам на месца. Вада пастаянна падмывае падмуркі, разбурае дваровыя тэрыторыі.

– У вёсцы Сосенка будуюць новую АЗС і ў нас па тры дні на тыдзень адключаюць з 9:00 да 17:00 электрычнасць. Гэта прыносіць вялікія нязручнасці, тым больш, што жыхары не заўсёды даведваюцца пра чарговае адключэнне, – наракала жыхарка суседняй вёскі.

Начальнік вілейскіх электрасетак **Павел Клютчэня** адзначыў, што асноўныя работы ўжо завяршаюцца. А падрадная арганізацыя просіць адключэнць за дзень-два, і аб'явы развешваюць, а таксама інфармуюць старшыню сельсавета **Ірыну Супрановіч**.

У Рабуні таксама ёсць праблемы з вадой. Але не з якасцю, а з перыядычнай адсутнасцю.

«Самае малое – гэта прыходзіцца чакаць каля дзесяці дзён», – казалі некаторыя вяскоўцы.

Выканальнік абавязкаў галоўнага доктара **Сяргей Грынцэвіч** адзначыў, што сапраўды па некаторых напрамках у раённай паліклініцы адчуваецца недахоп спецыялістаў, але гэта пытанне ўвесь час трымаецца на кантролі і штат дактароў папаўняецца маладымі спецыялістамі.

Падымалі пытанне і аб стане мясцовага пляжу, які з'яўляецца неафіцыйным, але ў гарачае надвор'е там можна налічыць некалькі соцень чалавек.

Яны заязджаюць на аўтамабілях прама ў ваду, забруджваюць могілкі, што побач.

А вось праходжанне медыцынскай камісіі, якое можа расцягнуцца на некалькі дзён толькі аднаго знаходжання ў чарзе пад кабінетам па даведку, будзе вырашаць адміністрацыя Вілейскай ЦРБ.

Жыхароў Ерхаў хвалюе адсутнасць і дрэнны стан кантэйнераў для смецця.

**Паводле Вілейскага райвыканкама.**

**Вяскоўцы з Рабуні скардзіліся на доўгія чаканні талонаў на прыём да дактароў у гарадской паліклініцы.**

## Участковы і інспектар па справах непаўналетніх – у тройцы лепшых на Міншчыне

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА

Ва ўпраўленні ўнутраных спраў Мінаблвыканкама правялі агляд-конкурс на званне «Лепшы ўчастковы інспектар міліцыі» і «Лепшы інспектар па справах непаўналетніх». У тройку лідараў трапілі супрацоўнікі Вілейскага і Маладзечанскага РАУС.

Удзельнікі дэманстравалі спецыяльную, страявую, агнявую, фізічную падрыхтоўку, а таксама аратарскія навыкі.

У выніку трэцяе месца ў намінацыі «Лепшы ўчастковы інспектар міліцыі» заняў участковы інспектар міліцыі Вілейскага РАУС, старшы лейтэнант **Аляксандр Пляско**.

У намінацыі «Лепшы інспектар па справах непаўналетніх» стаў інспектар інспекцыі па справах непаўналетніх Маладзечанскага РАУС **Аляксандр Танюкевіч**.

**Аддзел інфармацыі.**

● БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ



Спяваюць Максім Чарнецкі і Юля Дземідовіч.

# «Англійскую мову ведае шмат хто. Нямецкую – эліта»

## У Маладзечне ўпершыню зладзілі нямецкамоўны літаратурны батл

МАЛАДЗЕЧНА

**Спаборніцтвы з чытання вершаў на нямецкай мове зладзілі не ў школе і не ў бібліятэцы. Юных чытальнікаў арганізатары сабралі ў адным з маладзечанскіх бараў.**

– Мы спецыяльна так зрабілі, – расказала напачатку бібліятэкар залы замежных моў Маладзечанскай раённай бібліятэкі **Таццяна Летунова**. – Хацелася, каб дзеці максімальна расслабіліся, не хваляваліся.

Расслаблення дадавала гарбата з чызкейкам і піца. Пачастунак праспансавала Пасольства Германіі ў Беларусі. Гэты нямецкамоўны батл зладзілі ў межах тыдняў Германіі ў Беларусі.

– Мы вельмі рады, што сёння сюды прыйшлі 23 удзельнікі. Значыць, вы цікавіцеся нямецкай мовай і гісторыяй Германіі. Нездарма кажуць, што англійскую мову ведае шмат хто. Нямецкую – эліта, – адзначыла Таццяна Летунова.

Удзельнічалі школьнікі, якія вывучаюць нямецкую мову. А гэта прадстаўнікі школ №№1 і 5, санаторнай школы інтэрната і гімназіі №10.

Удзельнікі па чарзе чыталі вершы Гётэ, Шылера і іншых нямецкіх паэтаў. Ад некалькіх удзельнікаў прагучаў верш Гейнэ пра Ларалею – гераіню нямецкай міфалогіі – дзяўчыну з залатымі валасамі, падобную да нашай русалкі. Ужо шмат гадоў верш вывучаюць у школьнай праграме па нямецкай мове.

Сямікласніца санаторнай школы-інтэрната **Дар'я Канановіч** чытала два вершы: адзін – пра Ларалею, другі – «Песнь немцаў» – вядомы твор 19 стагоддзя, які пачынаецца словамі «Германія, Германія ўсюды…».

**Юля Дземідовіч** і **Максім Чарнецкі** з маладзечанскай школы №5 прапанавалі не верш, а нямецкую песню «Лясны пажар».

– Чаму песня? Хацелася, каб нумар быў больш яркім. Да таго ж я даўно спяваю, – расказала карэспандэнту «Рэгіянальнай газеты» Юля Дземідовіч. – Гэта сучасная нямецкая песня пра перажыванні маладой дзяўчыны.

Нямецкай мовай Юлю зацікавіла настаўніца **Зоя Дылеўская**. Аднак песню да ўдзелу ў батле дзяўчына абрала сама. Настаўніца толькі падтрымала.



Ля мікрафона – Дар'я Канановіч.

Пераможцаў вызначалі журы ў складзе журналіста і паэта **Аляксандра Лазоўскага**, знаўца нямецкай мовы **Анатоля Войніча** і акцёра «Батлейкі» **Віктара Піліпенкі**. А група падтрымкі абірала каго з удзельнікаў адзначыць прызам глядацкіх сімпатый.

У выніку месцы размеркаваліся так: 1 – **Вольга Пятроўская**, вучаніца дзявятага класа гімназіі №10, 2 – **Ягор Гаранін**, вучань шостага класа школы №5, 3 – **Аліна Макарэвіч**, васьмікласніца з гімназіі №10.

Прыз глядацкіх сімпатый атрымалі Юля Дземідовіч і Максім Чарнецкі.

– Усё ж песня – не зусім фармат літаратурнага батла. Але Юля і Максім так усім спадабаліся, што іх вырашылі адзначыць прызам глядацкіх сімпатый, – растлумачыла Таццяна Летунова.

Пераможцы атрымалі падарункі ад Пасольства Германіі ў Беларусі.


Тэкст і фота – Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

## Алесь Раткевіч запрашае на прэзентацыю сваёй кнігі

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА

**У нядзелю, 20 кастрычніка, наш пазаштатны аўтар Алесь Раткевіч запрашае ўсіх ахвотных на прэзентацыю сваёй кнігі «Па другі бок мяжы».**




Прэзентацыю ладзяць у 14:00 па адрасе: Маладзечна, вуліца Чыстая, 26. Уваход вольны.

У кнізе – краязнаўчыя артыкулы, дзе апісваецца гісторыя, невядомая шырокаму колу грамадства. У цэнтры ўвагі аўтара – Лагойшчына і Вілейшчына.

– Падзеі, пра якія я пішу ў кнізе, ніколі не ўключаліся ў школьную праграму навучання. У артыкулах – не вельмі прыемныя гістарычныя звесткі, якія не адпавядаюць мінулай ды і сённяшняй дзяржаўнай ідэалогіі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# «Любіў кнігі, як дзяўчат»

## Ураджэнец Вілейшчыны падарыў сваю бібліятэку дзяржаве

ВІЛЕЙКА

**Днямі паэт і перакладчык Уладзімір Папковіч перадаў шмат кніг з уласнай бібліятэкі ў кніжніцы Віцебска.**



Фотаздымкі забяспечаны Уладзімірам ПАПКОВІЧАМ.

Уладзімір Папковіч на адной з імпрэз.

– Апошнім часам я зусім страціў зрок. Чытаць не магу. Таму і вырашыў развітацца з дарагімі мне кніжкамі. Што яны будуць стаяць? Жонка ў мяне рускамоўная. А дачка жыве ў Варшаве, – падзяліўся з карэспандэнтам «Рэгіянальнай газеты» Уладзімір Папковіч.

Таму паэт і перакладчык вырашыў падарыць кнігі абласной бібліятэцы Віцебска – горада, дзе жыве ўжо шмат гадоў. Крыху раней перадаў сюды ж поўныя зборы твораў **Якуба Коласа, Янкі Купалы, Петруся Броўкі, Івана Мележа**.

### Кніг атрымалася пяць мяхоў

Цяпер Уладзімір Папковіч сабраў для бібліятэкі не толькі кнігі, але і публікацыі, альманахі, літаратурна-мастацкія часопісы. Атрымалася пяць вялікіх мяхоў. – Шмат было і кніг з аўтографамі, – распавядае пісьменнік. – Адны з самых дарагіх – ад рускамоўнага паэта **Давіда Сімановіча**, што жыў і працаваў у Віцебску. Калі я толькі прыехаў у гэты горад, мяне не асабліва хацелі друкаваць, бо не ведалі. А Давід Сімановіч мяне падтрымаў.

У бібліятэку Віцебска пайшлі і некалькі кніг з аўтографамі **Рыгора Барадуліна** – паэта, які адным з першых убачыў вершы Папковіча-пачынальніка.

### Пра знаёмства з Барадуліным

– Я добра ведаў празаіка **Міколу Ваданосава** і прынёс свае вершы яму ў выдавецтва «Мастацкая літаратура». А Ваданосаў кажа: «Я ж – празаік. Хай Грыша твае вершы паглядзіць. Ён – паэт». І перадаў вершы Грышу – паэту Рыгору Барадуліну, з якім разам працавалі ў выдавецтве. У хуткім часе Ваданосаў паведаміў Папковічу: «Грыша вершы прачытаў. Шліце яшчэ».

Ёсць кнігі з аўтографамі **Уладзіміра Арлова, Артура Вольскага, Янкі Брыля**.

– Добра памятаю, як у 1956 годзе атрымаў аўтограф ад Аркадзя Куляшова. Ён сядзеў у адной з кнігарняў Мінска і падпісваў свае кніжкі. А мы, студэнты Інстытута замежных моў, набылі яго кніжкі і падышлі за аўтографам.



З блізкім сябрам – паэтам Давідам Сімановічам.

### Тры пакоі – і ўсе ў кніжках

У Віцебскай бібліятэцы пісьменніка пераканалі, што тут усё захаваецца. Тое, што не спатрэбіцца ў абласной, перададуць у іншыя бібліятэкі горада. Нешта пакладуць у букросінг – на спецыяльную паліцу ў бібліятэцы, дзе можна пакідаць свае кніжкі і забіраць адтуль іншыя.

– Гэта ж толькі беларуская літаратура. А яшчэ ў мяне шмат рускай класікі, твораў нямецкіх аўтараў. У кватэры тры пакоі, і ўсе яны забітыя кнігамі. Кніжкі я ўсё жыццё любіў, як дзяўчат: прачытаю не заўсёды, але ў руках патрымаю і на паліцу пастаўлю, – жартуе Уладзімір Антонавіч.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

**Уладзімір Папковіч** – паэт, перакладчык. Нарадзіўся ў вёсцы Дварэц Хаценчыцкага сельсавета на Вілейшчыне. У 1944 годзе бацьку Уладзіміра Папковіча, Антона, забралі саветы. Судзілі закрытым судом, нібы за тое, што быў пры Польшчы солтысам. У 1953 годзе скончыў Ільянскую сярэднюю школу, пасля Мінскі дзяржаўны інстытут замежных моў (цяпер Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт). Працаваў у тым жа інстытуце выкладчыкам нямецкай мовы, пасля – у іншых установах сталіцы. Ад канца 1960-х жыве і працуе ў Віцебску. Ад 1982 года – выкладчык нямецкай мовы Віцебскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя Кірава (цяпер – Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Машэрава). Ад 1998 да 2005 год – загадчык кафедры нямецкай мовы гэтага ўніверсітэта. Член Саюза пісьменнікаў СССР з 1981 года. Лаўрэат прэміі «Сузор'е муз» імя Уладзіміра Караткевіча.

## Юных смаргонцаў пасвяцілі ў музыканты

СМАРГОНЬ

Па традыцыі ў Смаргонскай дзіцячай школе мастацтваў імя Агінскага штогод пасвячаюць у першакласнікі.

**Юныя музыканты, танцоры і мастакі адгадвалі музычныя загадкі, спявалі песні з мультфільмаў, танцавалі са старшакласнікамі, а таксама глядзелі музычныя нумары, падрыхтаваныя выхаванцамі школы.**

У завяршэнне свята дзеці ўрачыста далі клятву мастацтву, а казачныя героі ўручылі ім медалі.

**Аддзел інфармацыі.**

## Лукашэнка ўстанавіў новае абмежаванне для ўзнагароджання ордэнам Маці

Шматдзетная жанчына не атрымае ордэн Маці, калі не дасць згоды на тое, каб выканкам высвятляў, ці з'яўляюцца яе дзеці ўсыноўленымі (удачаронымі).

Адпаведнае рашэнне ўтрымліваецца ва Указе Прэзідэнта ад 3 кастрычніка 2019 года №365, які ўступіў у сілу 6 кастрычніка. Як сказана ў дакуменце, мясцовы выканаўчы і распарадчы орган, які вырашыў хадайнічаць аб узнагароджанні шматдзетнай жанчыны ордэнам Маці, мае права самастойна запытваць і атрымліваць у дзяржорганаў усе дакументы і звесткі, неабходныя для прыняцця гэтага рашэння.

Разам з тым інфармацыя пра тое, ці з'яўляецца дзіця ўсыноўленым (удачароным), запытваецца толькі са згоды шматдзетнай маці, якая падлягае ўзнагароджанню ордэнам Маці, і бацькі дзіцяці, адзначаецца ва ўказе №365.

**Калі бацькі не дадуць такой згоды, то чыноўнікі не маюць права хадайнічаць перад прэзідэнтам аб узнагароджанні жанчыны ордэнам Маці.**

У ліпені 2019 года Лукашэнка ўжо мяняў правілы ўзнагароджання шматдзетных маці. У прыватнасці, тады вырашылі, што ўзнагароду не атрымаюць жанчыны, якія не маюць беларускага грамадзянства, а таксама тыя з іх, якія неналежным чынам выконваюць свае абавязкі па выхаванні і ўтрыманні дзяцей.

Ордэнам Маці з 1996 года ўзнагароджваюцца жанчыны, якія нарадзілі і выхавалі пяць і больш дзяцей.

**Паводле сайта Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.**

# Пазнаю назвы суседніх вёсак і прозвішчы

## Уладзімір Папковіч – пра кнігу Алеся Раткевіча «Па другі бок мяжы»

ВІЛЕЙКА
МАЛАДЗЕЧНА

**Паэт і перакладчык Уладзімір Папковіч падзяліўся з карэспандэнтам «Рэгіянальнай газеты» ўражаннямі пра кнігу Алеся Раткевіча «Па другі бок мяжы».**

– Сачу за творчасцю Алеся Раткевіча, мы ж землякі. Маю абедзве яго кніжкі. Толькі вось чытаць ужо не магу. Таму аўтар сам чытае мне па мабільным тэлефоне. З задавальненнем слухаю. Чую знаёмыя назвы вёсак Вяпраты, Янушкавічы, Жабічы, Калачы. Я ж якраз нарадзіўся на памежжы. Мяжа паміж Заходняй і Усходняй Беларуссю праходзіла праз два кіламетры ад маёй роднай вёскі Дварэц.

**Так атрымалася, што нас, беларусаў, штучна раздзялілі. І сваякі, што ўвесь час жылі ў суседніх вёсках, апынуліся ў розных дзяржавах.**

Мне падабаецца, як піша Раткевіч. Ён паказвае і станоўчае, і адмоўнае. Напрыклад, у дзеяннях партызанаў. Канешне, пры Сталіну Алеся Раткевіча расстралялі б.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Ірына Макарава – новы галоўны доктар Вілейскай ЦРБ

ВІЛЕЙКА

Пра гэта карэспандэнту расказаў намеснік галоўнага доктара Вілейскай ЦРБ **Сяргей Грынцэвіч**.

**Ірына Паўлаўна Макарава** прыйшла на пасаду галоўнага доктара з ДРАЦ «Надзея», што на Вілейшчыне. Там яна была намеснікам дырэктара.

Аднак раней, па словах Сяргея Аляксандравіча, працавала ў Вілейскай ЦРБ.

Нагадаем, што да гэтага галоўным доктарам Вілейскай ЦРБ быў **Ігар Спільнічэнка**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## ЗАГС падзяліўся статыстыкай

ВІЛЕЙКА

Вілейскі ЗАГС падзяліўся статыстыкай: ад колькасці дзяцей, якія нарадзіліся сёлета, да колькасці вяселляў і смерцяў.

**Рэгістрацыя нараджэнняў**

За дзевяць месяцаў 2019 года нарадзілася 247 дзяцей. Прычым больш хлопчыкаў – 125, дзяўчынак – 122. Бацькі дзецям выбіралі розныя імёны. Найбольш распаўсюджаныя ў хлопчыкаў былі такія, як **Данііл, Раман, Аляксандр, Яраслаў, Максім, Аляксей, Іван**. А ў дзяўчынак – **Анастасія, Дар'я, Ксенія, Паліна, Вікторыя, Сафія**.

Сустракаліся і незвычайныя імёны, гэта **Лета, Серафіма, Міраслава, Рэната, Аміна, Авяр'ян, Эндэр, Елісей**.

У горадзе і раёне сем'яў, якія зарэгістравалі першае дзіця, – 79, другое дзіця – 95, трэцяе – 46, чацвертае – 22, пятае – 5. Акрамя грамадзян Рэспублікі Беларусь, бацькамі былі і 19 замежнікаў. Гэта грамадзяне Грузіі, Расіі, Нарвегіі, Турцыі, Латвіі і Украіны.

Што датычыцца ўзросту бацькоў, то мамамі ва ўзросце да 18 гадоў сталі тры жанчыны і адзін непаўнагадовы тата.

Сярэдні ж узрост маці па горадзе і раёне – 29 гадоў, бацькі – 31 год.

**Рэгістрацыя смерці**

За студзень-верасень 2019 года памерлі 603 чалавекі.

Ва ўзросце да аднаго года памерлі трое дзяцей, ад аднаго года да 18 – трое.

Пры гэтым у працаздольным узросце колькасць памерлых грамадзян склала 97 чалавек, пенсіянераў – 540, замежнікаў – 14. Сярэдні ўзрост памерлых мужчын – 65 гадоў, жанчын – 78 гадоў.

**Рэгістрацыя шлюбу**

У Вілейцы за дзевяць месяцаў 2019 года былі зарэгістраваныя 152 пары. З іх зарэгістравалі шлюб ва ўрачыстай абстаноўцы – 149. Адна пара зарэгістравала шлюб са скарачэннем тэрміну рэгістрацыі па ўважлівай прычыне.

Да 18 гадоў былі тры нявесты і адзін непаўнагадовы жаніх. Пенсійнага ўзросту – шэсць нявестаў і чатыры жаніхі.

Сярэдні ўзрост мужчын, якія ўступаюць у шлюб, склаў 31 год, а сярэдні ўзрост жанчын – 28 гадоў.

З замежнікамі зарэгістравалі 12 шлюбаў. З іх з грамадзянамі Расійскай Федэрацыі – 8, Украіны – 1, Латвіі – 1, Казахстана – 1, Арменіі – 1.

**Настасся УТКІНА.**

## На запраўцы ўсталявалі вялізнага жалезнага сома

МЯДЗЕЛ

Двухтонны сом даўжынёй у шэсць метраў з'явіўся на аўтазапраўцы ў курортным пасёлку Нарач. Пра гэта паведамляе карпаратыўнае выданне neft.by.

Велізарнага сома ўстанавілі каля запраўкі №17. Цяпер аматары сэлфі могуць прымяраць на сябе ролю зайздроснага рыбака. Менавіта рыбнай лоўляй, нагадвае выданне, славіцца гэты беларускі курорт.

Скульптура выкананая з металічнай арматуры, нержавеючай сталі і старых запчастак. На яе стварэнне спатрэбіўся месяц.

Аўтар – прафесійны зваршчык, мастак і ўладальнік творчай майстэрні **Уладзімір Канонік**.

**Паводле neft.by.**




Жалезны сом, усталяваны на Нарачы.




# Instagramныя месцы Маладзечна: экалагічны сквер

**Самае зялёнае месца горада месціцца ў яго цэнтры – якраз паміж Брадвеем і гасцініцай.**

Адкрыццё экалагічнага сквера адбылося 25 жніўня 2012 года. Ён з'явіўся ў памяць пра тое, што ў тым годзе Маладзечна было экалагічнай сталіцай Беларусі. Рэспубліканскі экалагічны форум прымаў Маладзечна 24-26 жніўня 2012 года.

На адкрыцці сквера дэлегаты форуму пасадзілі дзесяць дрэў.

Загадзя тут праклалі сцяжынкі, высадзілі туі, паставілі лаўкі і ўсталявалі ліхтары.

У цэнтры сквера стаіць скульптура «Чалавек-дрэва». Яе аўтар – **Аляксандр Фінскі**. Пра тое, што адным з вынікаў форуму стане памятны знак, было вядома загадзя. Але каб выбраць канкрэтную працу, праводзілі конкурс.

Скульптуру ўпрыгожвае ўрывак з верша **Юрася Свіркі**:

*Спяваюць птушкі,*
*не баіцца звер,*
*Як бы не чулі*
*выстралаў спрадвеку.*
*Забыўшыся на страх*
*і недавер,*
*Прырода давярае*
*чалавеку.*

Пра тое, чаму экалагічнай сталіцай абралі Маладзечна, распавёў начальнік Маладзечанскай інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя **Уладзіслаў Чарноў**: «Наш горад лічыцца зялёным. А форум праводзіцца, каб людзі зразумелі важнасць аховы прыроды.

Мы імкнёмся, каб вада і паветра сталі чысцейшымі, захоўвалася біяразнастайнасць. Каб дзеці бачылі снегіроў не толькі па тэлевізары, але і ў кармушках каля вокнаў».

Форум прысвечаны папулярызацыі экалагічных ведаў.

Скульптура «Чалавек-дрэва» сімвалізуе адказнасць людзей за тое, што адбываецца з прыродай. І што менавіта яна дае нам жыццё.

Зрабіць сэлфі з «Чалавекам-дрэвам» варта ўсім гаражанам і гасцям горада, якія вітаюць экалагічны лад жыцця.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**



## У жыхара Маладзечаншчыны патрабавалі грошы за інтымнае відэа

**35-гадовы жыхар Маладзечанскага раёна выслаў дзяўчыне інтымнае відэа, пасля чаго яна запатрабавала сем тысяч расійскіх рублёў, распавялі ў Маладзечанскім РАУСе.**

Беспрацоўны мужчына пазнаёміўся па вайберы з дзяўчынай Алінай. Яна даслала мужчыну відэа інтымнага характару. Але перад камерай пазіравала так, каб не было бачна твару.

Мужчына даслаў інтымнае відэа ў адказ. У тым роліку ён быў пазнавальны. Сувязь хутка абарвалася. Пасля ў сацыяльнай сетцы з фэйкавай старонкі мужчыну даслалі паведамленне з патрабаваннем грашовага пераводу. Цана пытання была сем тысяч расійскіх рублёў.

У адваротным выпадку, відэазапіс віртуальнага сэксу абяцалі разаслаць сябрам і знаёмым. Жыхар Маладзечанскага раёна не паддаўся на пагрозы і катэгарычна адмовіўся плаціць грошы. У выніку ролік 18+ адправілі сваякам пацярпелага.

Раніцай таго ж дня мужчына звярнуўся ў міліцыю. Па дадзеным факце праводзіць праверку. Устанавілі, што вайбер зарэгістравалі на расійскі нумар, IP-адрас карыстальніка таксама належыць Расійскай Федэрацыі.

У дзеяннях зламысніцы ўгледжваюцца прыкметы складу злачынства, прадугледжанага арт. 208 КК Рэспублікі Беларусь. За вымаганне падобнага роду можа пагражаць да пяці гадоў пазбаўлення свабоды. Калі ж ашуканцы дзейнічаюць групай, то максімальным па гэтым артыкуле пакараннем будзе пазбаўленне волі тэрмінам да дзесяці гадоў.

Як адзначыў першы намеснік начальніка Маладзечанскага РАУС начальнік крымінальнай міліцыі **Юры Кабакоў**, ад пачатку 2019 года зарэгістравалі пяць фактаў, калі ў інтэрнэце за невыдаванне наяўных звестак інтымнага характару вымагаюць грошы.

У некаторых выпадках ахвяры, паддаўшыся на шантаж, пералічвалі зламыснікам неабходныя сумы, пасля чаго файлы ўсё роўна траплялі на ўсеагульны агляд. У апошні час выпадкі падобнага вымагання пачасціліся, прычым ахвярамі становяцца як жанчыны, так і мужчыны.

Каб засцерагчы сябе ад ашуканцаў, не варта шукаць задавальненне патрэб у інтэрнэце з незнаёмымі людзьмі. Нават у асабістай перапісцы з сябрамі не варта размяшчаць адкрытыя фатаграфіі і відэафайлы, падсумаваў Юры Кабакоў.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота забяспечана Канстанцінам БОНДАРАВЫМ.

Удзельнікі чэмпіянату свету па сучасных танцах World Championships Artistic Dance з Маладзечна злева направа: Юльяна Казлоўская, Дар'я Кузняцова, Мікіта Маскаленка, Улад Страпко, Канстанцін Бондараў, Вікторыя Дварэцкая.

# Маладзечанскія танцоры сталі чэмпіёнамі свету

**Выступленне маладзечанскай танцавальнай студыі Art-House dance studio на чэмпіянаце свету па сучасных танцах стала надзвычай паспяховым. Удзельнікі прывезлі з польскага Плоцка чатыры першыя месцы.**

На чэмпіянаце выступалі як удзельнікі студыі, так і кіраўнік **Канстанцін Бондараў**. Спаборніцтвы **World Championships Artistic Dance** праходзілі ў польскім горадзе Плоцку ад 10 да 12 кастрычніка. Яны доўжыліся тры дні. Маладзечанцы выступалі 12 кастрычніка.

Агулам у чэмпіянаце ўдзельнічала больш за пяць тысяч танцораў. Былі прадстаўнікі Літвы, Латвіі, Эстоніі, Украіны, Расіі, Беларусі, Малдовы, Германіі, Польшчы.

Маладзечанцы ўдзельнічалі ў намінацыях «дзеці профі», «юніёры профі», «юнакі профі», «дарослыя профі». Першыя месцы занялі вучань другога класа СШ №14 **Улад Страпко**, вучаніца сёмага класа СШ №14 **Дар'я Кузняцова**, навучэнец політэхнічнага каледжа **Мікіта Маскаленка** і сам трэнер Канстанцін Бондараў.

– Мы нават не планавалі ўдзельнічаць у чэмпіянаце, – распавядае трэнер. – Запрашэнне даслалі ноччу, мы мелі толькі два дні, каб вырашыць, ці едзем. У выніку паехалі камандай у шэсць чалавек, і чацвёра з нас прывезлі перамогі.

### На перамогу не настройваліся

Канстанцін Бондараў расказвае, што ніколі перад спаборніцтвамі не настройвае дзяцей на перамогу. Таму што зусім неабавязкова, што пераможаш ты. А калі дзіця настройваць на перамогу, а яно прайграе, то атрымае сур'ёзны стрэс.

> – На спаборніцтвы мы едзем па ўдзел, галоўнае – паказаць сябе, на што ты здольны.

Вельмі хвалюючым момантам была цырымонія ўручэння ўзнагарод. Чатыры разы гучаў гімн Беларусі. Калі на пяцітысячную арэну гучыць гімн тваёй краіны, таму што ты заваяваў перамогу – гэта неверагодныя эмоцыі, якія немагчыма перадаць, дзеліцца трэнер.

Выступленні чэмпіёнаў можна паглядзець у групе клуба ў сацыяльнай сетцы «Укантакце». Там часам размяшчаюць відэа выступленняў удзельнікаў студыі. У канцы года выхаванцы студыі паказваюць справаздачны канцэрт для бацькоў. Канцэрты студыя не дае – як толькі дзеці з асноўнага ўсяму навучацца, паступаюць вучыцца ў Мінск. А новенькіх трэба вучыць усяму ад пачатку.



Удзельнікі Art-House dance studio, якія атрымалі першыя месцы, злева направа: Дар'я Кузняцова, Улад Страпко, Канстанцін Бондараў, Мікіта Маскаленка.

### Вучым адчуваць музыку

Бондараў расказаў, што ў іх студыі складаныя танцы. Вучаць не проста выконваць рухі, якія прыдумаў трэнер, а кіраваць целам, адчуваць музыку і эмоцыі, якія яна выклікае.

> Да імправізацыі таксама трэба рыхтавацца, развучваць асобныя рухі, знаходзіць сваю фішку.

Такі падыход спрацаваў на карысць маладзечанцаў на спаборніцтвах. У Плоцку яны выконвалі не завучаныя нумары. Удзельнікам уключалі музыку арганізатары. А выхаванцы павінны былі імправізаваць рухі. Так выхаванцы танцуюць не харэаграфію трэнера, а кожны свой танец. Уменне імправізаваць і адчуваць музыку і дапамагло маладзечанцам стаць чэмпіёнамі.



Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77



Фота забяспечана Дзянісам КАНЕЦКІМ.

## Якое піва пілі ў Вілейцы сто гадоў таму

ВІЛЕЙКА

**Рамонт вакзалаў у Вілейцы працягвае падкідаць мясцовым краязнаўцам цікавыя знаходкі.**

Днямі жыхар горада старшыня вілейскай суполкі «Ахова помнікаў» **Дзяніс Канецкі** знайшоў у зямлі цэлую шкляную бутэльку з коркам, а таксама старыя металічныя рэчы.

### Віцебская бутэлька з нямецкай назвай у вілейскай зямлі

На белым корку бутэлькі захаваўся разборлівы надпіс па-руску «Левенбрей. Витебскъ». Адкуль нямецкая назва на віцебскай бутэльцы? Разбіраемся.

Як паведамляе Вікіпедыя, Löwenbräu – гэта нямецкі брэнд. З нямецкай мовы перакладаецца як «ільвіны бровар». Прадпрыемства працавала ў Мюнхене. Першая згадка пра яго ў мюнхенскім архіве датуецца 1746 годам.

Сваёй назвай бровар абавязаны фрэсцы 17 стагоддзя. На ёй – прарок Данііл у канаве з ільвамі. Піва пад Löwenbräu у Мюнхене вырабляюць і сёння.

А ў 1875 годзе купец **Газіас Левенсон** пабудаваў бровар у Віцебску. Прадпрыемства называлася «Баварыя».

А ў 1913 годзе Левінсон з кампаньёнамі на базе завода ўтварылі акцыянернае таварыства. Назву яго пазычылі ў вядомага мюнхенскага вытворцы піва Löwenbräu. Вось адкуль на бутэльцы, знойдзенай у Вілейцы, узялася нямецкая назва.

Прадпрыемства ў Віцебску выпускала 330 тысяч вёдзер піва ў год. Гэта прыблізна чатыры мільёны літраў.

Пасля ўвядзення сухога закона летам 1914 года завод пераабсталявалі ў хлебапякарню і цукрасушыльню. Ад 1917 года выпускалі шыпучыя воды. У 1921 годзе вытворчасць піва на заводзе аднавілі.

На тое, што бутэльку вырабілі не пазней за 1918 год, указвае літара «ъ» у канцы слова «**Витебскъ**». Літара выкарыстоўвалася ў рускай мове да 1918 года ў канцы ўсіх слоў, што заканчваліся на зычны гук. Пасля рэформы гэта літара пачала выкарыстоўвацца толькі як раздзяляльны цвёрды знак. У канцы слова ёр скасавалі.

### Шыльда ад скрыні Морзэ і корак ад віленскага піва

Сярод знаходак – металічная таблічка ад прыстасавання для перадачы сігналаў азбукі Морзэ. На ёй надпіс – «Русское общ. С. М. Эриксонъ и Ко. Петроградъ 1915 год» і нумар. Таварыства «Эриксонъ и Ко» заснаванае ў Стакгольме ў канцы 19 стагоддзя. У Пецярбургу фабрыка Эрыксана адкрылася ў 1897 годзе.

Металічны круглы прадмет з хвосцікам з надпісам «Шопенъ. Вильно» – цэнтральная частка корка-капсуля ад піўной бутэлькі Віленскага акцыянернага таварыства піваварэння «Шопенъ».

Завод заснаваў віленскі купец **Вільгельм Пятровіч Шапэн** у 1869 годзе ў Вільні.

– Днямі яшчэ збіраюся пашукаць нешта на месцы рамонту. Але ўсё самае цікавае, відаць, ужо пад асфальтам, – падзяліўся з карэспандэнтам «Рэгіянальнай газеты» Дзяніс Канецкі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота МНС Беларусі.

Дзмітры Скляповіч падчас спаборніцтваў.

## Маладзечанец стаў лідарам у спаборніцтвах юных выратавальнікаў

Ужо два гады запар **Дзмітры Скляповіч** – удзельнік рэспубліканскага злёту юных выратавальнікаў. І гэтыя два гады ў конкурсе па выратаванні на вадзе – лідар у рэспубліцы.

– Гэта не проста спаборніцтвы, гэта велізарны спектр эмоцый і перажыванняў. Пабываўшы там аднойчы, хочацца яшчэ і яшчэ раз вярнуцца.

Больш за шэсць гадоў Дзмітры сур'ёзна займаецца плаваннем. У яго першы дарослы разрад па гэтым відзе спорту. Плыўца з такімі фізічнымі магчымасцямі заўважылі работнікі МНС і прапанавалі паўдзельнічаць у адкрытым першынстве Мінскай вобласці па выратаванні на вадзе і плаванні брасам.

Цяпер хлопец з упэўненасцю называе сябе сапраўдным выратавальнікам на вадзе. Ён адзначае, што добрыя вынікі спаборніцтваў прыйшлі дзякуючы карпатлівым трэніроўкам, адказнасці з яго боку і боку трэнера, а таксама і каманды.

**Паводле МНС Беларусі.**

## Трэнер клуба «Дзевяць ферзёў» перамог у чэмпіянаце Мінскай вобласці па хуткіх шахматах

**Віктар Акотчык** трэніруе маладзечанскіх і вілейскіх шахматыстаў клуба «Дзевяць ферзёў». Спаборніцтва адбылося 13 кастрычніка ў Жодзіне. Ён узяў першае месца ў чэмпіянаце Мінскай вобласці па хуткіх шахматах сярод мужчын і жанчын.

**Аддзел інфармацыі.**

## Вілейскі батутыст атрымаў бронзу на этапе Кубка свету

**Іван Літвіновіч** з Вілейкі атрымаў бронзавы медаль на этапе Кубка свету, што завяршыўся ў Іспаніі, паведамляе БелТА са спасылкай на прэс-службу Беларускай асацыяцыі гімнастыкі.

**Спаборніцтвы сабралі 300 спартсменаў з 47 краін. Іван узяў бронзу ў сінхронных скачках.**

Нагадаем, што Іван Літвіновіч – ураджэнец Вілейкі. Тут ён вучыўся ў Вілейскім дзяржаўным каледжы, мясцовай спартыўнай школе. Яго мама, Таццяна Літвіновіч, працуе трэнерам па акрабатыцы. Яна і далучыла хлопца да спорту.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Вілейская СДЮШАР адзначыць юбілей

Спецыялізаваная дзіцяча-юнацкая школа алімпійскага рэзерву Вілейскага раённага выканаўчага камітэта 18 кастрычніка адзначыць 60-годдзе.

За мінулы год у СДЮШАР падрыхтавалі аднаго майстра спорту міжнароднага класа па скачках на батуце, аднаго майстра спорту па плаванні, трох кандыдатаў у майстры спорту, восем спартсменаў першага разраду, 95 масавых разрадаў.

**Аддзел інфармацыі.**



# «Згуляеце ўнічыю – кожнай куплю па кватэры»

## Як маладзечанскія футбалісткі згулялі супраць ФК «Мінск»

**Маладзечанкі ў нядзелю, 13 кастрычніка, згулялі ў Чысці супраць мацнейшай каманды Беларусі ФК «Мінск». Гэты матч быў часткай моладзевага першынства Мінскай вобласці ў рамках рэспубліканскіх спаборніцтваў па футболе па праграме развіцця жаночага футбола АБФФ і ФІФА.**

Карэспандэнт «Рэгіянальнай газеты» з'ездзіла разам з дзяўчатамі на матч, каб расказаць пра самае цікавае, што адбывалася на полі і за ім.

### Спявалі песні і настройваліся на гульню

У мікрааўтобусе, які накіроўваўся з Маладзечна ў Чысць, была звычайная атмасфера для спартыўнай каманды: хтосьці гутарыць між сабой, іншыя настройваюцца на гульню і спяваюць, а нехта моўчкі сядзіць у тэлефоне. Трэнер **Сяргей Ляшчынскі** спрабуе падбадзёрыць гульцоў і жартуе наконт будучага матча.

– Калі згуляеце ўнічыю – кожнай куплю па кватэры! У Мінску!

Галоўны трэнер **Уладзімір Макоўскі** спакойна сядзеў у аўто побач з кіроўцам. Ён усё скажа ў распранальні, дзе за паўгадзіны да сустрэчы з мінчанкамі дасць устаноўку на гульню. Канцэнтрацыя і нешматслоўнасць галоўнага трэнера не турбавалі дзяўчат, якія амаль усім мікрааўтобусам пачалі спяваць песні.

– Усё! Хопіць спяваць, думайце пра гульню, – сказаў Ляшчынскі.

– Мы такім чынам рыхтуемся да матча, – крыкнуў хтосьці з дзяўчат з задніх сядзенняў.

### «Судзіць будзе Цярэшка!»

Пад спевы дзяўчат, гутарку трэнераў з дзяўчатамі пра ўрокі ў школе і будучыя паступленні ў каледжы мікрааўтобус спыніўся каля стадыёна ў Чысці.

– Судзіць будзе Вольга Цярэшка, – адзначыў Ляшчынскі.

У машыне адразу сціхла музыка, а ўсе футбалісткі пераглянуліся паміж сабой.

– З ёй не спрачацца. Я буду размаўляць, калі што, – працягнае трэнер.

Галоўная суддзя матча Вольга Цярэшка родам з Маладзечна, дзе і пачынала гульнявую кар'еру. Цярэшка гуляла ў футбол да сур'ёзнай траўмы калена, была ў нацыянальнай зборнай, але ў сувязі з пашкоджаннем стала арбітрам. Цяпер яна – рэферы ФІФА. Для дзяўчат з Маладзечна яна як прыклад, а як суддзя на полі – аўтарытэт.

### Прэсінг і шмат галоў ад сапернікаў

У распранальні дзяўчаты атрымалі ад Макоўскага і Ляшчынскага ўстаноўку на гульню, а потым пайшлі размінацца перад матчам. Маладзечанская каманда выйшла на поле чысцінскага стадыёна першай. Футбалісткі з Мінска правялі размінку і разагрэў пазней. Пасля высветлілася, што гэта не перашкодзіла ім выглядаць на полі мацнейшымі за маладзечанак.

Мінчанкі спачатку не моцна ціснулі на саперніц. А пасля першага гола населі на каманду Макоўскага і Ляшчынскага.

– Адразу! Сядаем!

Гэта азначала, што маладзечанскую каманду пачынаюць прэсінгаваць ужо з таго моманту, як яны разводзяць мяч у цэнтры поля. Мінчанкі пастаянна знаходзіліся на палове поля саперніц, не давалі ім перайсці ў атаку. Ад абароны падапечныя Макоўскага таксама згуляць не змаглі, таму што гублялі мяч у цэнтры.

Першы тайм завяршыўся з лікам 5:0. Другі тайм падарыў мінчанкам столькі ж галоў, а яшчэ і дадаў падарунак ад надвор'я – дождж. Мокры газон і непаслухмяны мяч крыху адцягнулі галявы напад мінчанак, але яны хутка зарыентаваліся ў новых умовах. Каманды пачалі актыўна выкарыстоўваць опцыю замен.

Пасля дзявятага гола Макоўскі выпусціў яшчэ адну новую футбалістку. На пытанне пра чаканасць разгромнага выніку гульні, ён адказаў шчыра:

– ФК «Мінск» – гэта моцная каманда. За 15 матчаў яны не прапусцілі яшчэ ніводнага мяча. Ні адзін гол ім не забілі. Разумееце, што за каманда?

Гульня завяршылася з лікам **10:0**. Па кватэры футбалісткі маладзечанскай зборнай не атрымалі.



Тэкст і фота –
Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

2. Вокладку дэбютнага зборніка вершаў гэтага паэта «Курганная кветка» афармляў Язэп Драздовіч.
3. Нахіл галавы ў знак прывітання, згоды.
4. Самы траўманебяспечны від танцавальнага мастацтва.
6. Кіраўнік, апякун.
9. Упершыню ў гісторыі беларускай эканомікі яны з'явіліся 1 ліпеня 2016 года.
11. Выкліканыя пытаннем або зваротам словы, выказаныя вусна ці пісьмова.
12. Сукупнасць уласцівасцяў пэўнага чалавека, якія складаюць яго індывідуальнасць.
13. Сукупнасць людзей, аб'яднаных пэўнымі адносінамі, якія абумоўленыя спосабам вытворчасці матэрыяльных і духоўных каштоўнасцяў.
19. Доўгія валасы на шыі некаторых жывёл.
25. Памяшканне з печчу або плітой для гатавання ежы.
27. У прамежку паміж краямі якой-небудзь прасторы, пераважна ў роўнай адлегласці ад іх.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. Рытмічна калыхацца, гойдацца з аднаго боку ў другі або зверху ўніз.
4. У гэтай краіне знаходзіцца адзін з апошніх у Еўропе трапічных лясоў, які называецца перучыца.
5. Вялікая, звычайна высокая чарка.
6. Верхняя кароткая вопратка, якая зашпільваецца на гузікі ці на замок.
7. Горад, дзе найбольш рэстаранаў, уганараваных зоркамі Мішлена.
8. Імя брата Кастуся Каліноўскага.
10. Папулярны ў савецкі час торт, які атрымаў назву ў гонар еўрапейскай сталіцы.
13. Няветлівы, некультурны, рэзкі.
14. Самая кароткая рака Беларусі.
15. Думка, меркаванне пра якасць, годнасць, значэнне.
16. Незгаральная металічная шафа для захоўвання каштоўных папер, дакументаў.
17. Гэты танец бярэ пачатак не з Польшчы, а з Чэхіі.
18. Гаспадар маёнтку, атрыманага ў спадчыну ад продкаў.
20. Моцны алкагольны напітак; сумесь віннага спірту з вадой.
21. Які поўнасцю здаволіўся; які не адчувае голаду.
22. Гасцініца.
23. Марфема, акрамя кораня і канчатку, якая служыць для ўтварэння слоў і для надання ім новага значэння.
24. Краіна, дзе ў рацыёне мясцовых жыхароў шмат морапрадуктаў.
26. Ашуканец.
27. Сумеснае пасяджэнне членаў арганізацыі, калектыву.

## Адказы на крыжаванку з №41

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Столь. 4. Самалёт. 5. Гром. 7. Чаканка. 8. Чацвер. 9. Чыгун. 10. Нара. 11. Гумус. 14. Сакавіты. 15. Заяц. 20. Тэдзі. 21. Гвалт. 22. Язык. 23. Канцлер. 24. Дождж.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Садоўнік. 3. Салома. 5. Гусь. 6. Нетры. 7. Чэрап. 8. Частушка. 10. Ноша. 11. Грукат. 12. Грызня. 13. Намібія. 16. Статак. 17. Ядро. 18. Нямы. 19. Фісташкі. 24. Днепр.



## ● ГАРАСКОП на 18-24 КАСТРЫЧНІКА

**АВЕН.** Цяпер рыхтуйцеся, што многае можа адбывацца не так, як вы планавалі. Прычым па прычынах, якія ад вас зусім не залежаць. Некаторыя выпадкі будуць самі сабой так складвацца. А ў іншых сітуацыях прычынай стануць нядобразычліўцы. Ваша зброя адна – ваш спакой.

**ЦЯЛЕЦ.** У вас з'явіцца шмат ідэй. Але ўвасобіць іх у жыццё пакуль што будзе складана. Запісвайце іх, каб каштоўныя думкі захаваліся. Прыйдзе час, калі гэтыя запісы вам спатрэбяцца.

**БЛІЗНЯТЫ.** Вас чакае прыліў сіл і энергетычны ўздым. Можаце брацца за любыя складаныя задачы. Нават калі нешта вам падаецца вельмі складаным, варта выпрабаваць сябе. Нельга дасягнуць высокіх мэтаў, калі ты недастаткова амбіцыйны.

**РАК.** Вас чакае няпросты і нават супярэчны час. Такія абставіны вакол вас забіраюць усю рашучасць. Вы нібы стаіце на адным месцы і не ведаеце, як рушыць наперад. Або і ўвогуле не хочаце туды ісці. Магчыма, яшчэ і не надышоў час для кроку. Спачатку трэба знайсці глебу пад нагамі, і ўжо толькі пасля рабіць крок.

**ЛЕЎ.** Настойлівасць стане вашым лепшым сябрам. Ёсць шмат задум, якія вы хацелі ўвасобіць у жыццё. Варта ўзяць адну і апрацаваць ва ўсіх накірунках. Цяпер той час менавіта для такога падыходу.

**ДЗЕВА.** Узнікне напружанасць і ў рабочых, і ў асабістых адносінах. Пазбегнуць спрэчак будзе няпроста. Але гэтага рабіць і не варта. Адстойвайце сваю пазіцыю, але і старайцеся зразумець апанента. Вас напаткае тая сітуацыя, калі ісціна нараджаецца ў спрэчцы.

**ШАЛІ.** Удала пройдуць здзелкі любога ўзроўню. Супрацоўніцтва прынясе прыбытак. Нават маючы няшмат інфармацыі, вы будзеце прымаць слушныя рашэнні. Паклапаціцеся, каб першае ўражанне пра вас было як мага больш прыемным. Ад гэтага залежыць поспех далейшых спраў.

**СКАРПІЁН.** Вы будзеце стамляцца хутчэй, чым звычайна, таму бярыцеся спачатку за самыя важныя справы. Дні спрыяльныя для перамоў. Якія б мэты вы ні ставілі, зможаце дабіцца паразумення ад апанента і дамагчыся свайго. Плённая праца прынясе прыбытак.

**СТРАЛЕЦ.** Не прымайце блізка да сэрца словы, сказаныя ў запале. Не варта гарачыцца, паспрабуйце зразумець, чаму складваюцца такія няпростыя ўзаемаадносіны.

**КАЗЯРОГ.** Цяпер вам варта быць як мага больш шчырымі. Калі на сэрцы ёсць нейкі цяжар – лепш адкрыта прызнацца ў гэтым і далей спакойна жыць. Рызыкоўныя і авантурныя мерапрыемствы лепш абыходзіць бокам.

**ВАДАЛЕЙ.** Ідэальны перыяд для размоў. Любыя сустрэчы і гутаркі будуць паспяховыя. Суразмоўцы будуць лёгка ісці на кантакт. Магчыма, у вас нават завяжуцца рамантычныя адносіны. Толькі не губляйце галавы.

**РЫБЫ.** Вам будзе камфортна з людзьмі, блізкімі па духу. Часам давядзецца ісці на саступкі і быць гібкімі. У агульных справах гэта толькі пойдзе вам на карысць.

**Эмілія ХВОЯ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 4 | | | 9 | | 2 | 5 |
| | | | | 4 | | 8 | 7 | 3 |
| | | 5 | 8 | 2 | | 6 | | |
| | | | | 5 | | | 3 | |
| | 6 | 7 | 9 | | | 5 | | |
| | | 9 | 1 | 7 | | | | |
| 6 | | | | 8 | | | | 9 |
| 8 | | | | | 6 | 7 | 4 | |
| | | 2 | | | | | 1 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

Рэгіянальная газета. Rh.by

Падпішыся на «РГ» у Instagram!

RG_RHBY



## Чытайце праз тыдзень:

- У Маладзечна прыязджаюць з візітам прадстаўнікі лясной службы ЗША. Яны падзеляцца досведам, як папярэджваць пажары ў лясах і абараняць лясную экасістэму. Пра тое, як прайшла сустрэча і якія веды атрымалі маладзечанцы, чытайце праз тыдзень.

## 19 кастрычніка, субота

**Вецер:** паўднёвы, 3-4 м/с




Усход 7.50
Захад 18.08
Даўжыня дня 10.18

Усход 21:18
Захад 13:44
Месяц на сходзе

**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. НАРАЧ**

Мінімальная тэмпература -4,2°С у 2014 годзе
Максімальная тэмпература +16,6°С у 2012 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 17,9 мм у 2004 годзе

Паводле meteoinfo.by.



## Хавайся ад восеньскай дэпрэсіі з «Рэгіянальнай газетай»!

### Падпісацца на «РГ» можна:

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітныя». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

✓ **на пошце**
✓ **праз паштальёна**
✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі:**
- на месяц – 4 рублі 50 капеек;

Цана **ведамаснай падпіскі:**
- на месяц – 13 рублёў 50 капеек;

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Якую мову ўказалі роднай на перапісе насельніцтва?



**Анастасія Сярболіна, загадчыца музея:**
– Перапісаліся ў перапісчыка ўсёй сям'ёй. Пытання пра мову не было, ды і калькасць пытанняў здзівіла. Але адназначна – беларуская мова.



**Яўген Завадскі, слесар:**
– Яшчэ не праходзіў перапіс, але планую абраць беларускую мову.



**Уладзімір Садоўскі, інжынер:**
– Уся наша сям'я з трох чалавек абрала беларускую мову.



**Таццяна Гурман, спецыяліст па працы з кліентамі:**
– Я выбрала рускую. Бо цяпер у нас вельмі распаўсюджаная руская мова як у школьнай адукацыі, так і ў народзе. Не кажу, што беларускую мову трэба забываць. Ні ў якім разе. Гэта наша родная мова і мова нашых продкаў.



**Арцём Лантас, індывідуальны прадпрымальнік:**
– Вучыўся ў беларускамоўнай школе, але ўсе размаўляюць на рускай, таму і абраў рускую мову.



**Вікторыя Яноўская, дыспетчар:**
– Абрала рускую. Я добра стаўлюся да беларускай і рускай моў. Але ўсе размаўляюць на рускай, таму і я на ёй гавару.



**Марыя Горбач, гаспадыня:**
– Мая сям'я з Расіі, таму напісала рускую мову.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4100 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№42 (1277) 18.10.2019. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1688. Падпісана ў друк у 9.00 17.10.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.